незалежная газета

№ 16 (710) 27 красавіка 2011

www.nn.by

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады



**Апошняе слова: судзяць Саннікава, Статкевіча, Някляева**

Старонка 5



**Чарнобыльскі шлях — 2011**

Старонка 3



**Страшная аварыя пад Вялікдзень**

Старонка 13

ТЭНДЭНЦЫІ

## Сайт валютчыкаў ломіцца ад наведнікаў

Папулярны сайт prokopovi.ch беларусы выкарыстоўваюць як своеасаблівую электронную біржу — людзі дамаўляюцца паміж сабой наконт куплі/продажу валюты і ўдвух ідуць у банк.

Першы прадае валюту па афіцыйным курсе, другі адразу ж яе купляе, а пасля за межамі абменніка даплачвае першаму розніцу паміж афіцыйным і рэальным курсам. Калі інфармацыя пра такі сайт разышлася, у працы сайта пачаліся збоі. Адміністрацыя паведаміла, што сайт пераносіцца на новы хостынг, бо стары не дае рады наплыву наведнікаў.

**АГ**

Нацбанк: «Удасканаленне функцыянавання ўнутранага валютнага рынку будзе працягвацца і далей».

**У каго які курс даляра? Старонка 4.**

# Жыццё ў чарзе

Валютны рынак паралізаваны. Курс далярa пры аперацыях між прадпрыемствамі перавысіў 5000 рублёў. Старонка 4.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Людзі днююць і начуюць каля абменнікаў, каб купіць валюту.**

# Мільянер
## у дзяржаве для народа

Бізнэс-імперыя Юрыя Чыжа расце як на дражджах.



PHOTO.BYMEDIA.NET

Тыдзень таму «Наша Ніва» пачала расповед пра аднаго з найбагацейшых людзей Беларусі Юрыя Чыжа. Цяперашні мільянер быў апошнім, шостым сынам з простай вясковай сям'і з Бярозаўшчыны. У школе найлепшыя адзнакі ў яго былі па хіміі і фізкультуры, але паступаць ён вырашыў у Політэхнічны. Размеркаванне на МТЗ — і сем гадоў працы на прадпрыемтве. Урэшце, сутыкнуўшыся з інерцыйнасцю дзяржпрадпрыемства, Юрый Чыж звольніўся з завода і стварыў уласную кампанію — «Трайпл».

### Першы прыбытак з машыны гарэлкі

Гэта цяпер «Трайпл» — вядомы брэнд, які прыносіць свайму ўладальніку добрыя грошы. Але пачыналася ўсё з маленькага. «Арандаваў пакойчык у раёне кінатэатра «Мір», — узгадваў Юрый Чыж у адным з інтэрв'ю. — Прызначыў сябе дырэктарам, бухгалтара ўзяў. Першы досвед быў паспяховым — зарабіў паўтары тысячы даляраў на перапродажы машыны гарэлкі. Стартавы капітал пазбіваў, пасля пачалі брэсцкія дываны прадаваць у Расію. І так пайшло-паехала...»

Пасля таго, як удалося скалаціць стартавы капітал пасрэдніцкай дзейнасцю, Чыж адкрыў дзве вытворчасці — безалкагольных напояў і пластыку.

**Працяг на старонцы 9.**

# Любоў зла

Лукашэнка абазваў кіраўніка Еўракамісіі казлом.

«Часовы тайм-аўт» у адносінах з Еўропай **(старонка 3)** можа зацягнуцца. Вера насельніцтва ў рублёвыя ўклады падае, а з ёй кіраўніцтва Беларусі пакідае вытрымка.

У спробе адцягнуць увагу ад росту цэн, Лукашэнка назваў кіраўніка Еўракамісіі казлом і абвінаваціў кіраўніцтва Украіны ў «вашывасці».

У часе наведвання Нараўлянскага раёна ў Аляксандра Лукашэнкі спыталіся, чаму ён не ўдзельнічае ў чарнобыльскіх мерапрыемствах разам з прэзідэнтамі Украіны і Расіі. «Задайце гэтае пытанне Януковічу, — узвіўся ён у адказ. — Гэта вы ў іх спытайце. На жаль, вашывасці хапае ў цяперашняга кіраўніцтва Украіны».

Лукашэнка назваў нягоднікамі тых, хто спрабуе ўвесці эканамічныя санкцыі супраць краіны. «Таму я не жадаю гаварыць аб усякіх Барозу, іншых казлах, быках і іншых», — заявіў А. Лукашэнка журналістам. Яго словы працытавалі міжнародныя інфармацыйныя агенцтвы.

Як вядома, эканамічных санкцый супраць Беларусі Еўрасаюз не ўводзіў. У той жа час ЕС папярэдзіў, што ў выпадку новых рэпрэсій супраць насельніцтва Беларусі, у прыватнасці, зняволення арыштаваных кандыдатаў у прэзідэнты, могуць быць уведзеныя новыя санкцыі супраць лукашэнкаўцаў. Сёння кіраўніцтва Еўрасаюза праводзіць палітыку ігнаравання А.Лукашэнкі і ягоных паплечнікаў.

У прыватнасці, старшыня Еўракамісіі заявіў кіраўніцтву Украіны, што ўмовай ягонага ўдзелу ў чарнобыльскім саміце будзе адсутнасць Лукашэнкі. ЕС лічыць унутраную і замежную палітыку Лукашэнкі непрымальнай для еўрапейскай краіны і варожай да ЕС.

«Што тычыцца такіх казлоў, як Барозу і іншых... Ну, хто такі Барозу? Быў нейкі Барозу ў Партугаліі, але выгналі яго і ўладкавалі ў Еўракамісію. Я менш за ўсё гляджу, што дзе хто ляпнуў з еўрапейскіх чыноўнікаў. Іх там тысячы», — заявіў А. Лукашэнка.

«Хіба можна супраць краіны, якая больш за ўсё пацярпела [ад Чарнобыльскай аварыі] весці гаворку аб тым, каб увесці нейкія санкцыі? — рытарычна пытаўся Аляксандр Лукашэнка. — Нам дапамагаць трэба», — сцвярджаў ён.

«Але казлы — яны і ёсць казлы, — упарта вяртаўся да гэтага вульгарнага вобраза А.Лукашэнка. — Што сёння пра іх казаць? Мы для іх [Захаду] — канкурэнты. Мы — ідэалагічныя праціўнікі. Мы — людзі, якія прапаведуюць іншы лад жыцця». І яшчэ: «Мы для іх небяспечныя. І справа не ў нейкай дыктатуры і дэмакратыі». «Нам не патрэбна такая іх дэмакратыя», — падсумаваў ён.

Магчыма, такой адчайнай рыторыкай Аляксандр Лукашэнка хоча схіліць Расію да выдзялення Беларусі чарговага крэдыту, без якога краіна задыхаецца ад дэфіцыту валюты.

**Мікола Бугай**

# Мітынгоўцы нанеслі шкоду аж на 159 тысяч

26 красавіка пачаўся працэс над даверанай асобай Саннікава Змітром Бандарэнкам.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Цікавае ноу-хау: у зале суда Першамайскага раёна цалкам адсутнічала мабільная сувязь. Дзіўным чынам сувязь меў толькі рэпарцёр блізкага да ўрадавых колаў агенцтва «Інтэрфакс».

Зміцер быў падцягнуты і акуратны. Гэта пры тым, што ў турме ў яго ўзніклі праблемы са здароўем — хвароба хрыбта і частковы параліч нагі.

Цягам следства Бандарэнку перакваліфікавалі абвінавачванні: з падрыхтоўкі масавых беспарадкаў у дзеянні, што груба парушаюць грамадскі парадак.

Прасцей кажучы, палітыка абвінавачвалі ў тым, што ён у калоне дэманстрантаў ішоў па праспекце Незалежнасці. Тым самым нанёс шкоду «Мінсктрансу», а таксама прылеглым установам, кшталту «Макдональдса» і абменнага пункта валют.

«Мінсктранс» выставіў смешны рахунак: ажно 159 тысяч. Бо ў той час многія маршруты аўтобусаў не дайшлі да канцавых пунктаў. Прычым, зрабіў гэта не адзін, а разам з усімі ўдзельнікамі акцыі. Сябры Бандарэнкі гэтую суму сплацілі.

Сам Бандарэнка прызнаў сябе вінаватым у тым, што праз яго нейкі час на праспекце не хадзілі аўтобусы. «Але гэта не проста крымінальная справа, але і палітычная», — зазначыў абвінавачаны.

Зміцер казаў, што быў на Плошчы, бо быў абураны заявамі Ярмошынай, што яна — член каманды Лукашэнкі. Ён прывёў прыклад, калі б футбольны суддзя заняў пазіцыю аднаго з гуляючых бакоў. А канчатковае рашэнне прыняў, калі пачуў на БТ, што на Плошчы нікога не будзе. «Вырашыў, што хоць маёй сям'і не будзе сорамна».

Бандарэнка з вялізнай павагай гаварыў пра Андрэя Саннікава. Казаў, што гэта выбітная асоба, і яму было за гонар працаваць з ім.

Ад 22 верасня тэлефон Бандарэнкі быў на праслухоўванні. «Мне так і не растлумачыў ніхто, на якой падставе», — менавіта на тэлефонных размовах у значнай частцы і грунтавалася абвінавачванне. А яшчэ на выкрыку з ганка Палаца прафсаюзаў: «Пара мяняць лысую рызіну».

Пракурор Сіманоўскі папрасіў суддзю Рывінскую пакараць Змітра максімальна па гэтым артыкуле — тры гады пазбаўлення волі.

**Зміцер Панкавец**

## Былая журналістка БелТА Алеся Серада: «Я не маю дачынення да здымкаў Лукашэнкі ў метро»

Інфармацыя пра нібыта зніклую журналістку інфармацыйнага агенцтва БелТА Алесю Сераду хутка абляцела Байнэт. Казалі, што менавіта яе палічылі датычнай да «зліву» на незалежныя інтэрнэт-сайты здымкаў, на якіх кіраўнік Беларусі Аляксандр Лукашэнка стаіць у метро побач са знявечанымі целамі забітых выбухам людзей.

Казалі, нібыта Алесю забралі проста з працы разам з сістэмным блокам камп'ютара. Мабільны нумар журналісткі не адказваў, што змушала яе сяброў трывожыцца.

Карэспандэнт «Нашай Нівы» здолеў звязацца з Алесяй Серадой. Дзяўчына кажа, што яна «сапраўды сышла з працы з БелТА», але да скандальных здымкаў «не мае ніякага дачынення». Прычынай яе сыходу стала «парушэнне працоўнага распарадку». У выніку працоўная



дамова была спыненая па згодзе абодвух бакоў. «Але я ў любым выпадку не магла там больш працаваць», — кажа Алеся.

Чаму сябры і знаёмыя не маглі з ёй звязацца? «Гэта асаблівасць майго псіхічнага стану», — жартуе Алеся. Па яе словах, ёй захацелася пабыць адной.

Праз некалькі дзён пасля выбуху ў інтэрнэце былі апублікаваныя шакуючыя здымкі, зробленыя, як выглядае, афіцыйным фатографам Аляксандра Лукашэнкі. З іх вынікае, што А.Лукашэнка наведваў месца выбуху ў метро яшчэ ў момант, калі там заставаліся ляжаць целы ахвяраў.

Фота Лукашэнкі на станцыі з'явілася ў інтэрнэце 15 красавіка. А 17 красавіка Алеся Серада размясціла ў сваім інтэрнэт-дзённіку запіс пра тое, што ўсе яе паштовыя акаўнты былі «ўзламаныя хакерамі». Яна раіла сябрам выдаліць іх з адраснай кнігі. «Дый дадзеныя з камп'ютара, здаецца, таксама страчаныя», — пісала журналістка.

**Яўген Васількоў**

### Сцісла

- **4 мая пачнецца рэгістрацыя абітурыентаў** на цэнтралізаванае тэставанне. Яна будзе доўжыцца да 1 чэрвеня.
- **Чакаюцца першыя навальніцы. 28 красавіка ў Беларусі хмарна.** Ноччу па поўначы, днём месцамі дажджы, магчымыя навальніцы. Тэмпература паветра ноччу плюс 4–11°С, днём плюс 18–24°С. 29 красавіка пахаладае: ноччу плюс 1–8°С, днём плюс 12–19°С.
- **На Вялікдзень у царкве спрабавалі ўкрасці пушку з ахвяраваннямі.** 31-гадовы беспрацоўны спрабаваў выкрасці грошы ў галоўным праваслаўным храме Гомеля. Гэта здарылася падчас усяночнай. У скрынцы было амаль 100 тысяч рублёў.

**СМ**

### Ліцэйскае навучанне на беларускай мове

Інфармацыя пра дзейнасць ліцэйскіх класаў з беларускай мовай навучання ў Гданьску (Польшча) і магчымасць навучання ў іх маецца ў Таварыстве беларускай мовы (вул.Румянцава, 13). Т.: (029) 639-27-15 (Ірына).

### Самае чытанае на nn.by за 20 — 26 красавіка

1 «Камедзі Клаб» пра Беларусь і Лукашэнку

2 Аляксандр Фядута: «Нашай мэтай былі перамовы з Сідорскім»

3 Юрый Чыж — як становяцца мільянерамі (анонс матэрыялу з газеты)

4 Лукашэнка: Я гатовы знішчыць любую «пятую калону»

5 Сяброўка галоўнага затрыманага: Хімію ён не ведаў і крэдыту не браў

6 Набожныя віцяблянкі такія набожныя — фотафакт

7 Чаму для Лукашэнкі Мінск стаў «свядомым» і «творчым»?

8 Падазраваны ў тэракце меў па хіміі не пяцёрку, як сцвярджаў Лукашэнка: фота атэстата

9 Палітычны працэс. Суд над Змітром Бандарэнкам. Анлайн

10 Саюз пісьменнікаў з нагоды выбуху асудзіў блогера Ліпковіча

## Вялікдзень пад ценем жахлівых падзей

Велікоднае пасланне айца Аляксандра Надсана, апостальскага візітатара для беларусаў замежжа.

«Уваскрасення дзень! Прасветлімся, людзі! Сёння Пасха Гасподняя, пасха! Бо вось ад смерці да жыцця і ад зямлі да неба Хрыстос Бог узняў нас, якія пяем песню перамогі».

Гэтымі словамі пачынаецца Велікодны гімн (канон) святога Яна Дамаскіна.

Пасха — слова габрэйскага паходжання. Яно азначае выхад на волю з Егіпта пад правадырствам Майсея абранага народа пасля чатырохсотлетняга зняволення. І вось гэтая падзея стала вобразам таго, што здзейсніў Ісус Хрыстос, які сваім устаннем з мёртвых вызваліў нас з няволі смерці, прывёўшы да вечнага жыцця з Ім. Насамрэч гэта было абнаўленне людскога роду, акт новага тварэння, як скажа пасля святы Павал: «Хто ў Хрысце, той новае стварэнне: старое мінула, вось сталася ўсё новае» (2 Кар 5:17).

Вялікдзень — радаснае свята, але нельга забыцца, што яго апярэджвала Вялікая Пятніца, калі Госпад Ісус памёр на крыжы. Сам бязвінны, Ён даў сябе ў ахвяру як выкуп за нашыя грахі. Святы Пётра прыпамінае нам, што мы «адкупленыя... не марным срэбрам ці золатам, але найдаражэйшай крывёю Хрыста, як ягняці беззаганнага і без пракуды» (1 Пт 1:18–19).

Габрэі, сутыкнуўшыся з цяжкасцямі жыцця ў пустыні, куды іх вывеў Майсей, пачалі наракаць: «Лепш бы нам было памерці ад рукі Госпада ў зямлі Егіпецкай, калі мы сядзелі ля катлоў з мясам, калі мы елі хлеба ўдосталь!» (Вых 16:3). Іншымі словамі, яны сталі перад выбарам між свабодаю з усімі яе цяжкасцямі і тым, што звычайна называецца «чаркай і скваркай». У падобны спосаб і мы сёння стаім перад выбарам: быць ці не быць нам з Хрыстом, які памёр за нас і ўваскрос. Святы Павал кажа: «Калі мы памерлі з Хрыстом, дык верым, што разам з Ім жыць будзем» (Рым 6:8), бо «Калі Ён памёр, дык памёр раз для граху, а што жыве, дык жыве для Бога. Так і вы лічыце сябе памерлымі для граху, а жывымі для Бога ў Хрысце Ісусе» (Рым 6:10–11).



PHOTO.BYMEDIA.NET

Сёння беларусы адзначаюць Вялікдзень пад ценем жахлівых падзеяў, што днямі здарыліся ў Мінску. Нашыя думкі і сэрцы з сем'ямі загінулых і з усімі пацярпелымі. У гэтых трагічных абставінах ці знойдзем мы ў сабе дастаткова духоўнай сілы, каб — не адмаўляючы патрэбы знайсці адказных за гэты ўчынак, за што яны павінны атрымаць згодна з вымогамі справядлівасці, — адмовіцца ад нянавісці, а пайсці следам за Хрыстом, які на крыжы маліўся за тых, хто яго ўкрыжаваў: «Ойча, прабач ім, бо яны не ведаюць, што чыняць» (Лк 23:34)? Гэта быў бы першы крок да агульнага прымірэння і духоўнага ацалення.

Хочацца закончыць гэтыя кароткія разважанні словамі Велікоднай службы: «Уваскрасення дзень! Прасветлімся ўрачыстасцю і адзін аднаго абдымем; скажам «Браты» і тым, што ненавідзяць нас, прабачыўшы ўсё дзеля Уваскрасення; і ўсклікнем вось так: Хрыстос уваскрос з мёртвых, смерцю смерць зваяваў, і тым, што ў магілах, жыццё дараваў.

**Вялікдзень 2011 г., Лондан**

## Не забудзьцеся падпісацца!

### Падпіска праз Рэдакцыю

Цана падпіскі праз Рэдакцыю на месяц складае 7500 рублёў.

Мы рэкамендуем падпісвацца праз Рэдакцыю.

Наша сістэма дастаўкі газеты за 4 гады даказала сваю надзейнасць. Мы зможам дастаўляць Вам газету хутчэй або з той жа хуткасцю, што «Белпошта».

**Каб штотыдзень атрымліваць газету, дасылайце адрасы і грошы за газету.**

1) Просім усіх ахвотных падпісацца паведамляць у Рэдакцыю свае адрасы і тэлефоны. Гэта можна зрабіць праз: тэлефоны: (017) 284-73-29, (029) 260-78-32, (029) 618-54-84, e-mail: dastauka@nn.by, паштовы адрас: 220050, г.Мінск, а/с 537.

2) Просім у бланку банкаўскага паведамлення ці паштовага пераказу дакладна і разборліва пазначаць адрас, у тым ліку паштовы індэкс і код пад'езда.

**Банкаўскія рэквізіты:**

ПВУП «Суродзічы», УНП 190 786 828

Аддз. № 539 ААТ «Белінвестбанк», вул. Калектарная, 11, Мінск, код 739

Рахунак атрымальніка: 3012 740 628 011

Від аплаты: За газету «Наша Ніва»

### Падпіска праз «Белпошту»

Цана гэтай падпіскі — 8 520 руб. на месяц.

**Падпісныя індэксы ў каталогу «Белпошты»:** для людзей — 63125, для прадпрыемстваў — 631252. Падпісацца можна на кожнай пошце.

### Дзякуй падпісчыкам, якія падпісваюцца праз Рэдакцыю

Аляксандру Г. з Лагойскага раёна.
Георгію С. з Аршанскага раёна.
Віталію Г. з Чачэрскага раёна.
А.Л., Алене Б. з Гомеля.
Т.А. з Крычаўскага раёна.
Л.Ш. з Мінскага раёна.
Аляксандру А. з Пінскага раёна.
Валерыю С., С.Ш. з Віцебска.
Алегу Р. з Валожынскага раёна.
В.М. з Лепельскага раёна.
С.К. з Лідскага раёна.
Мікалаю К., Барысу С. са Светлагорскага раёна.
Іне Я., Сяргею К., Антону Т., Т.К. са Смалявіцкага раёна.
Анатолію А. з Магілёва.
Вользе Б. са Столінскага раёна.
Георгію С. з Бешанковіцкага раёна.

# План ёсць, але ніхто не ведае які

**Лукашэнка заявіў пра нязменнасць эканамічнай палітыкі.**



Сяргей Гудзілін

Сёлетні зварот Аляксандра Лукашэнкі да народа і парламента чакалі. Найперш, каб пачуць адказы на злабадзённыя эканамічныя пытанні часу. Калі ў краіне з'явіцца валюта, што рабіць з беларускай эканомікай? Спадзяваліся пачуць і сігналы, які лёс чакае палітвязняў, ці магчымае аднаўленне дыялогу з Еўропай, якія высновы былі зробленыя з тэракта.

### «Ці патрэбны нам гэткі ўрад?»

Ужо ў самым пачатку сваёй прамовы Лукашэнка ў рэзкай форме наехаў на прадстаўнікоў урада. Ён абвінаваціў іх у залішнім лібералізме.

Звяртаючыся да Мясніковіча, кіраўнік краіны запытаўся: «Дык ці трэба нам такі ўрад?» Здалося, што ніякага выхаду з крызісу ці эканамічнай праграмы Лукашэнка не мае, а ўсе чаканні звязаныя толькі з хутчэйшым атрыманнем расійскага крэдыту.

Але і тут ёсць несупаданс. Няхай рашэнне аб расійскім крэдыце і будзе прымацца як палітычнае. Тым не менш, расійскі міністр фінансаў Кудрын публічна кажа аб неабходнасці рэфармавання беларускай эканомікі. Лукашэнка ж працягвае сцвярджаць, што ніякіх зменаў не будзе.

Кіраўнік краіны быў далёкі ад таго, каб прызнаць нейкія свае памылкі — крызіс распачаўся пасля перадвыбарчага напампоўвання эканомікі лёгкімі грашыма. Наадварот, Лукашэнка працягваў настойваць, што крызіс прыйшоў звонку, што яго выклікаў рост цэнаў на энерганосьбіты, а яго развіццю паспрыялі самі людзі, купляючы аўтамабілі.

«Заходнікі, саудаўцы прызналі, што 30% цаны на нафту спекулятыўныя. Яна стольки не каштуе. Але мы не фармуем цаны на нафту. Мы не Саудаўская Аравія і нават не Расія».

«Жыць трэба па сродках», — у чарговы раз нагадаў Лукашэнка. У астатнім ягоная прамова ў эканамічнай частцы супадала з мінулагоднімі. Трэба ашчадна ставіцца да энергіі, трэба ўводзіць інавацыйныя тэхналогіі ў вытворчасці, казаў ён.

Тым не менш, ён пастараўся супакоіць насельніцтва. Сказаў, што праз паўгода пра сённяшнія складанасці ўжо ніхто і не ўспомніць. Але якім чынам гэта будзе рабіцца, пакінуў у сакрэце.

### Тайм-аўт

Стан узаемадачыненняў з Еўропай Лукашэнка прыгожа назваў «часовым тайм-аўтам». «Гэты

> Кіраўнік краіны далёкі ад таго, каб прызнаць нейкія свае памылкі.

тайм-аўт не задоўжыцца — мы патрэбныя адзін аднаму», — сказаў ён.

Што тычыцца Амерыкі, то ён даў зразумець, што гатовы гаварыць і з імі, калі яны захочуць, але ў прыярытэтах замежнай палітыкі Амерыка не стаіць. Пражывём і без іх.

Надзіва мала ў звароце згадвалася Расія. Лукашэнка запэўніваў, што гэта найбліжэйшы нам народ, які заўсёды гатовы дапамагаць. Але здаецца, сам Лукашэнка разумее залежнасці ад усходняга суседа. Выглядае, што менавіта таму паспрабаваў запэўніць, што прыхваснямі Расіі мы не будзем.

Што да астатняга замежнага вектара, то ён цалкам кладзецца ў колішнюю фразу Лукашэнкі: «Яны нас не ведаюць, яны нас чакаюць». Быў загад шукаць новыя рынкі збыту тавараў на розных кантынентах.

Звярнула ўвагу, як раз за разам Лукашэнка ўхвальна згадваў пра Кітай і «кітайскую мадэль».

### «Пятая калона будзе знішчана»

Пра апазіцыю Лукашэнка гаварыў многа. У асноўным, у прамове гучала запалохванне. Амаль адразу ён секануў: «Любая пятая калона будзе знішчана».

Кіраўнік краіны з гонарам заўважыў, што хутка прымусіў замаўчаць апазіцыйных палітыкаў пасля тэракта ў мінскім метро: «Павыклікалі на допыты».

«Народ павінен саспець да пераходу мажарытарнай выбарчай сістэмы да змешанай», — сказаў Лукашэнка пра хуткія парламенцкія выбары. Налета яны будуць праходзіць па старой схеме.

### Тэрарыст з БРСМ

Лукашэнка адкрыў некалькі дэталяў справы з выбухам у мінскім метро 11 красавіка. Перш-наперш ён зазначыў, што да такой сітуацыі прывёў залішні лібералізм у краіне, які насаджваўся «звонку, а таксама пятай калонай». Тым не менш, палітычнага ці крымінальнага следу ён тут не бачыць.

Расказаў, што пасля выбуху было затрымана некалькі чалавек каўказскай нацыянальнасці. Нібыта ён потым прасіў у гэтых людзей прабачэння праз старшыню КДБ.

Лукашэнка зазначыў, што затрыманнем меркаваных тэрарыстаў яны прадухілілі яшчэ тры падобныя выпадкі, дзе наступствы маглі быць яшчэ больш страшныя.

Расказаў, што адзін з затрыманых з'яўляецца сябрам БРСМ. З гэтай нагоды ён заклікаў не заганяць у арганізацыю абыкаго. Затрыманая дзяўчына была студэнткай недзяржаўнай ВНУ, таму і прагучалі словы разабрацца з такімі ўстановамі.

### Дэпутаты думаюць пра Афрыку

Што здзівіла, дык гэта пытанні дэпутатаў. Іх было нямнога — усяго пяць. Гучалі яны, нібы старанна адрэпеціраваныя.

Дэпутат Ігар Карпенка задаваў пытанне першым. Ён не знайшоў больш актуальнай тэмы, як сітуацыя ў Паўночнай Афрыцы. Сапраўды, каму што баліць.

Лукашэнка спрабаваў абмаляваць стабільную сітуацыю ў краіне, а дэпутатка (былы міністр) Антаніна Марава паставіла пытанне ў лоб: як адбівацца будзем у выпадку чаго?

Кіраўнік краіны і тут сказаў, што план у яго ёсць. Але які, ён пакуль не скажа.

**Зміцер Панкавец**

**Тры афарызмы ад Лукашэнкі**

«Адно дзіця — гэта ваша, другое — таксама, трэцяе — маё і крыху ваша, чацвёртае — на 100% маё».

«Мне здаецца, што недзе нафта ў нас ёсць. А калі нафта ёсць, то не можа быць, каб не прарвала прыродны газ».

«Беларускія хакеры 200 мільёнаў тысяч даляраў у гэтых крамах скралі. Вядома ж, гэта абы-што [безабразіе], але часам глядзіш і ганарышся тым, што гэтыя людзі ўмеюць рабіць».

# «Чарнобыльскі шлях — 2011» прайшоў на плошчы Бангалор

**Першы раз за дваццаць гадоў грамадства не наважылася правесці «Чарнобыльскі шлях» у цэнтры Мінска.**




Сяргей Гудзілін

Арганізатары «Чарнобыльскага шляху» прынялі рашэнне аб правядзенні яго 26 красавіка ў Мінску на плошчы Бангалор. Там сабралася каля 500 чалавек. Паводле слоў Віктара Івашкевіча, такое рашэнне было прынята, каб не правакаваць сілавыя структуры.

Раней Мінгарвыканкам забараніў правядзенне 26 красавіка ў Мінску шэсця. У аўторак увечары пляцоўку каля Акадэміі абгарадзілі турнікетамі, станцыю метро «Акадэмія навук» закрылі. А на бакавых вуліцах каля плошчы Якуба Коласа чакалі напагатове аўтазакі, поўныя спецназа.

«Чарнобыльскі шлях» — традыцыйнае шэсце, якое праводзіцца ад 1989 года. Яно бывала больш ці менш шматлюдным, але заўжды было прынцыповым для апазіцыі. Не раз улады забаранялі яго, тады яно праводзілася без дазволу — напрыклад, ад плошчы Свабоды ці ад Акадэміі навук. Сёлета першы год, калі градус страху ў грамадстве такі, што ніхто з палітыкаў ці грамадскіх дзеячаў не ўзяў на сябе адказнасць за збор людзей у недазволеным месцы.

Многія грамадскія лідары зняволеныя, іншыя знаходзяцца пад следствам. Лідар Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька заклікаў апазіцыйных палітыкаў 26 красавіка наведаць Чарнобыльскую зону. На ягоную думку, у атмасферы пасля тэракта ўлады не далі б дазволу ні на якую вулічную акцыю ў цэнтры Мінска.

На плошчы Бангалор, якую многія ўспрымаюць як абразлівую для народнага волевыяўлення, сабраліся як актывісты нацыянал-дэмакратычнай апазіцыі, так і анархісты з расцяжкай «Чарнобыль, Фукусіма, Астравец». Сярод удзельнікаў пераважалі людзі сталага веку. Многія з іх трымалі бел-чырвона-белыя сцягі з чорнымі стужкамі.

Арганізатар мітынгу Юры Хадыка ў сваім выступе зазначыў, што прыход паўтысячы чалавек — добры знак перадолення страху.

**Сямён Печанко, Мікола Бугай**

### На Вялікдзень Лукашэнка згадаў чорта каля царквы

У нядзелю, на Вялікдзень, наведваючы Петрыкаў, афіцыйны кіраўнік дзяржавы прысутнічаў на богаслужбе ў царкве Святога Мікалая Цудатворца. Лукашэнку суправаджалі малодшы сын Мікалай і епіскап тураўскі і мазырскі Стафан.

Пасля службы ля царквы падчас гутаркі з петрыкаўцамі Лукашэнка дазволіў сабе згадаць нячыстага. Праскочыла гэтае слова-паразіт. Праўда, пасля адразу ж выбачыўся перад епіскапам. «Нічога-нічога», — супакоіў Стэфан.

Эпізод паказала дзяржаўнае тэлебачанне.

**Сяргей Мікулевіч**

**Лукашэнка: Калі мы ўжо пазбавімся гэтай беларускасці?**

Аляксандр Лукашэнка выкарыстаў паездку ў чарнобыльскія раёны для агітацыі за пабудову атамнай станцыі.

«Прыбалтыйскія суседзі заявілі аб стварэнні сумеснай АЭС, Польшча будзе будаваць сваю атамную электрастанцыю». «Дык чаму мы ўпадаем у шаленства? Таму што нам гэта навязваюць. Гэтыя 90 млн еўра [дапамога Еўрасаюза Беларусі] — гэта таксама адзін з праплочаных кірункаў, каб яны [апазіцыя] крычалі гвалтам. Мы [ЕС] даём на гэта грошы», — сказаў А. Лукашэнка. «Чаму? Таму, што мы — канкурэнты для Прыбалтыкі, Польшчы. Калі мы ўжо пазбавімся ад гэтай беларускасці, у горшым сэнсе гэтага слова?» — заявіў Лукашэнка.

Як вядома, краіны Балтыі хочуць збудаваць на пляцоўцы былой савецкай Ігналінскай АЭС новую станцыю па французскай ці паўднёвакарэйскай тэхналогіі. Між тым, Аляксандр Лукашэнка распачынае ў Астраўцы будоўлю АЭС па расійскай тэхналогіі і ў прывязцы да расійскай энергасістэмы. Такая будоўля павялічыць і без таго 90-працэнтавую залежнасць Беларусі ад Расіі ў галіне энергетыкі.

**СГ**

# Урад рыхтуе насельніцтва да 30-працэнтнай дэвальвацыі

**Віцэ-прэм'ер Румас: справядлівы курс даляра — 3800—4100 рублёў.**

Стварэнне «дагаворнага курса», якое анансавала «Наша Ніва» ў папярэднім нумары, адкладваецца на нявызначаны тэрмін. Меркавалася, што гэты курс будзе існаваць паралельна з тым, які ў абменніках. Ім змаглі б карыстацца прадпрыемствы, каб выкупляць валюту ў банкаў. У аўторак стала вядома, што новыя таргі не адбудуцца. «Адкрыццё альтэрнатыўных у адносінах да асноўнай сесіі таргоў патрабуе выканання значнай падрыхтоўчай працы тэхнічнага характару, а таксама стварэння ўсіх умоў, неабходных для ўстойлівага і эфектыўнага функцыянавання дадатковай сесіі», — гаворыцца ў паведамленні Нацбанка. Рэч у тым, што банк настойвае, каб кошт валюты не адхіляўся ад афіцыйнага курса больш, чым на 50%. Гэта значыцца, што даляр будзе ацэньвацца максімум у 4500 рублёў. Ахвотных прадаць амерыканскую валюту па такім курсе не назіраецца. А «дакласці» грошы Нацбанку няма адкуль, бо ўладам пакуль не ўдалося пазычыць сродкі ані ў Расіі, ані ў іншых крэдытораў. Раней курс валюты не мог адхіляцца ад афіцыйнага больш чым на 10%. Аднак зняцце абмежаванняў да ажыўлення на рынку не прывяло. Больш за тое, за час бяздзеяння ўлады рэальны курс куплі/продажу даляра ўжо пераваліў за 5 000 рублёў.

«Нацыянальны банк Беларусі разлічвае ў маі выйсці на адзіны абменны курс валюты. Тады ж у абменных пунктах можа з'явіцца валюта», — з такой заявай выступіў начальнік галоўнага ўпраўлення валютнага рэгулявання валютнага кантролю Нацбанка Анатоль Мароз. Пра гэта ж казаў і Аляксандр Лукашэнка, выступаючы са сваім пасланнем да дэпутатаў і народа.

Фармальна застаецца інтрыга, які з курсаў даляра, афіцыйны (3050 рублёў) ці новаўтвораны (імаверна, каля 4000 рублёў), стане выніковым. Але чыноўнікі ўжо пачалі рыхтаваць насельніцтва да горшага з варыянтаў.

Віцэ-прэм'ер Беларусі Сяргей Румас выказаў меркаванне, што адэкватны курс беларускага рубля знаходзіцца ў калідоры 3 800—4 100 рублёў за даляр. «Гэта адпавядае сёння стану, у якім знаходзіцца наша эканоміка», — заявіў Румас у інтэрв'ю агенцтву Reuters. Паказальна, што чыноўнікі заяўляюць пра сапраўдны курс даляра, адштурхоўваючыся менавіта ад непрызнанага дзяржавай курса 5 000 рублёў, а не ад афіцыйнага 3 048 рублёў.

Адкуль узятая лічба ў 4000 рублёў, якая азначае 30-працэнтнае абясцэньванне нацыянальнай валюты? «Улады псіхалагічна не гатовыя да больш высокага ўзроўню дэвальвацыі», — лічыць незалежны эканаміст Сяргей Чалы. — Гэта чыстая псіхалогія, тая лічба, на якую ўлады гатовыя пагадзіцца і якую яны хочуць бачыць».

Тым часам нават афіцыйны курс беларускага рубля дасягнуў ніжняй мяжы дазволенага 8%-га калідора дэвальвацыі. На 25 красавіка гэты паказчык склаў 7,99%.

**Яўген Васількоў**

**У каго які курс даляра?**

Нацыянальны банк — 3045

Банкі, абменнікі — 3105

Інтэрнэт-крамы — 3500—4000

Аўтарынкі — 3800—5000

Курс у банках для аплаты валютных крэдытаў рублямі — 4000

«Белпошта» — фактычна, 4 115

Турфірмы («Смоктрэвел», «Тэз Тур») — да 5500

Рэальны курс пры аперацыях паміж прадпрыемствамі — 4000—5300




**Перабоі з валютай падкасілі дробных гандляроў.**

## Жыццё ў чарзе

**Чэргі ў абменніках стануць адной з прыкметаў 2011 года для беларусаў.**

Пакуль валюта ў абменніках застаецца вялікім дэфіцытам, мінчукі не губляюць надзеі купіць даляры і еўра па афіцыйным курсе. Бясконцае стаянне ў чарзе застаецца фактычна адзінай такой магчымасцю. Але ў кожнай чарзе свае правілы. «Я прыехала да абменніка на Камароўскім рынку да пятай гадзіны раніцы, мужчына запісаў мяне ў спіс, дзе я апынулася сямнаццатай! — расказвае адна з «паляўнічых» на валюту. — Па ўсёй стаянцы стаяць машыны, у якіх начуюць людзі з чаргі. Ліміт даляраў абмежаваны, больш за трыста даляраў набыць не ўдасца». Такі ж прынцып працуе і ў астатніх абменніках — калі скупіў вызначаную суму, адпраўляешся ў канец спіса ахвотных. Ці, што часцей, проста пераязджаеш да іншага абменніка, дзе неўзабаве падыходзіць твая чарга. «Я стаю ў гіпермаркетах «Гіпа» і «Карона», але сёння планую заехаць у гандлёвы цэнтр «Сталіца» і ў гіпермаркет у Чыжоўцы», — кажа таксіст. Ягоны свабодны графік і спецыфіка працы дазваляюць яму аператыўна аб'язджаць патрэбныя абменнікі. «Проста так, «з вуліцы», падысці да абменніка нерэальна. Людзі з чаргі дзяжураць па начах, і пры адкрыцці гіпермаркета яны перакрываюць абодва ўваходы, каб ніхто выпадковы не прайшоў, не перабіў чаргу. У спісе трэба адзначацца з 6-й да 9-й гадзін раніцы. Калі спазнішся — выкрэсліваюць незалежна ад таго, колькі прастаяў у чарзе». Праз колькі часу звычайна ўдаецца атрымаць валюту на чыгуначным вакзале, які ўжо даўно аблюбавалі валютчыкі? «Трое сутак пераначоўе, можа, нешта і зможаце купіць... — кажуць у чарзе. — Днём можна кудысьці адысці, а вось уначы трэба кожную гадзіну прыходзіць і адзначацца».

**Людзі дзяжураць па начах і пры адкрыцці гіпермаркета перакрываюць абодва ўваходы.**

Чакаючы валюту, некаторыя не толькі марнуюць час, але і нядрэнна зарабляюць. Бабулькі ў чарзе стаяць не толькі для сябе і ўнукаў, але і для дадатку да пенсіі. Гадзіна сядзення каштуе ў сярэднім 3000 — 4000 рублёў. За поўны дзень, у які ўдалося купіць $100, удаецца зарабіць каля 40 тысяч рублёў. Калі ж працуеш «на сябе» і ведаеш, каму выгадна прадаць тыя ж $100, то чысты прыбытак можа дасягаць 180 тысяч рублёў.

**ЯВ, цыт. kp.by i interfax.by**

## Валюты няма. Чакайце

**Да атрымання расійскага крэдыту Нацбанк не рашаецца арганізаваць таргі для прадпрыемстваў.**

Правядзенне дадатковай сесіі на таргах БВФБ адкладзенае на няпэўны тэрмін. У аўторак Нацбанк паведаміў, што «цяпер няма неабходнасці ўвядзення дадатковай сесіі на таргах ААТ «Беларуская валютна-фондавая біржа».

Імаверна, Нацбанк не рашыўся на правядзенне афіцыйных альтэрнатыўных таргоў, пакуль не мае валюты для інтэрвенцый на выпадак, калі попыт будзе рэзка і доўгі час перавышаць прапанову. «Адкрыццё альтэрнатыўных у адносінах да асноўнай сесіі таргоў патрабуе выканання значнай падрыхтоўчай працы тэхнічнага характару, а таксама стварэння ўсіх умоў, неабходных для ўстойлівага і эфектыўнага функцыянавання дадатковай сесіі», — гаворыцца ў паведамленні Нацбанка.

А валюты няма, бо ўладам пакуль не ўдалося пазычыць сродкі ані ў Расіі, ані ў іншых крэдытораў. Перамовы з Расіяй аб выдзяленні крэдыту працягваюцца, прычым расійскія фінансісты патрабуюць ад Беларусі дэвальвацыі рубля. У аўторак з'явілася інфармацыя, што перамовы могуць скончыцца на наступным тыдні.

«Удасканаленне функцыянавання ўнутранага валютнага рынку будзе працягвацца і далей па меры стварэння з боку эканомікі неабходных умоў для падтрымання абменнага курса беларускага рубля паблізу яго раўнаважкага ўзроўню», — заявіў Нацбанк.

На мінулым тыдні і намеснік старшыні Нацбанка Лузгін, і віцэ-прэм'ер Румас заяўлялі пра тое, што альтэрнатыўныя таргі распачнуцца на гэтым тыдні.

Аднак, як бачым, устанаўленне афіцыйнага альтэрнатыўнага курса рубля адкладаецца.

**Сяргей Гезгала**

## Інвестыцыйнае зеро

**План па прыцягненні інвестыцый выкананы... на 1%!**

У першым квартале аб'ём прыцягнутых прамых замежных інвестыцый на чыстай аснове склаў крыху больш за 1% гадавога задання. Пра гэта паведаміў прэм'ер-міністр Міхаіл Мясніковіч.

**ЯВ**

**Што такое прамыя інвестыцыі?**

Аперацыі, зробленыя інвестарамі, якія валодаюць хаця б 10% акцый арганізацыі.

## «Белпошта» згуляла на апярэджанне

**Стала нявыгадна ратаваць ашчаджэнні ў рублях праз міжнародныя пераводы.**

З 20 красавіка «Белпошта» ўзняла тарыф на міжнародныя грашовыя пераводы ў 5 разоў. Цяпер за рублёвы перавод за мяжу з вас возьмуць 35% ад сумы. Раней тарыф складаў ад 4 да 8%. Тарыф на пераводы ў замежнай валюце захаваўся ранейшы — 8%.

Асаблівасць грашовых пераводаў такога кшталту, якой удала карысталіся беларусы, у тым, што ў Беларусі сума прымаецца ў беларускіх рублях, у Расіі выдаецца ў расійскіх рублях, ва Украіне – у грыўнях. Паколькі камісія была невялікай, колькасць ахвотных такім чынам зберагчы ашчаджэнні, перавёўшы беларускія грошы замежным сваякам, рэзка ўзрасла. Цяпер «Белпошта» закрыла такую магчымасць. Арганізацыя згуляла на апярэджанне, фактычна, дэвальваваўшы для сябе беларускі рубель на 35%.

У выніку аказалася, што беларуская кампанія павінна «Пошце Расіі» велізарныя грошы. Расійцы пагражаюць, што могуць увогуле заблакаваць пераводы з Беларусі.

**ЯВ**

# Апошняе слова

Працэсы Саннікава, Статкевіча, Някляева будуць галоўнымі палітычнымі падзеямі бліжэйшых тыдняў.

27 красавіка пачынаюцца адразу два працэсы. У першым з іх будуць судзіць кандыдата ў прэзідэнты **Андрэя Саннікава**, а таксама яшчэ чатырох шараговых удзельнікаў акцыі: **Іллю Васілевіча**, **Алега Гнедчыка**, **Фёдара Мірзаянава** і **Уладзіміра Яроменку**.

Працэс будзе весці суддзя Партызанскага раёна Наталля Чацвярткова. Раней яна некалькі разоў выносіла прысуды актывістам, але ў буйных палітычных працэсах да гэтага заўважаная не была.

Кранальны ліст бацьку напісаў сын Саннікава Данік. «О, мой любы тата! Я так люблю цябе! Хачу, каб ты не вазіўся з тваёй працай. Калі ласка, тата, прыязджай да нас. Я хачу, каб ты прывёз мне што-небудзь смачнае і машынку. З добрым сэрцам, тата. Мы з маёй мамай хочам, каб ты хутчэй прыехаў. Тата, калі ты не зможаш прыехаць, калі ласка, папрасі тых, хто пасылае сувязь, вярнуць нам сувязь. Тата, мы хочам, каб ты зусім да нас прыехаў. З любоўю, Даня.

У мамы прастуда і ёй нельга выходзіць. Таму мы выходзім толькі з цёткай Таняй, бабуляй і дзедам».

Саннікаў будзе першым кандыдатам у прэзідэнты, які дачакаўся свайго суда. Па прысудзе можна будзе меркаваць, што пагражае астатнім кандыдатам. Актывісты «Еўрапейскай Беларусі» заклікаюць людзей прыходзіць на суд з сінімі стужачкамі колеру Еўропы.

У той самы дзень у Кастрычніцкім судзе пачынаецца разгляд справы ўпартага актывіста апазіцыі **Паўла Вінаградава**, юнака з Гродна **Алеся Кіркевіча**, архівіста **Зміцера Драздa**, **Андрэя Пратасені** і **Уладзіміра Хамічэнкі** (агент «Навушнік»).

Суддзёй будзе досыць вядомая Ала Булаш. У 2006 годзе яна за закрытымі дзвярыма разглядала крымінальную справу Зміцера Дашкевіча. Тады лідара «Маладога фронту» асудзілі на два гады за дзейнасць ад імя незарэгістраванай арганізацыі.

Найбольшы тэрмін сярод гэтай пяцёркі рызыкуе атрымаць Павел Вінаградаў. Справа ў тым, што хлопца будуць судзіць не толькі за ўдзел у масавых беспарадках, але і за абразу нацыянальных сімвалаў. Прыператрусе ў Вінаградава канфіскавалі камп'ютар, дзе знайшлі здымкі, як ён спальвае пудзіла Лукашэнкі.

На тым тыдні кароткае спатканне з Паўлам меў ягоны бацька Юры Вінаградаў. Ён кажа, што актывіст абраў сабе мадэль паводзінаў на судзе. «Будзе гаварыць, што ішоў на Плошчу паводле палітычных перакананняў, паводле сумлення».

5 мая пачынаецца суд над лідарамі кампаніі «Гавары праўду» **Уладзімірам Някляевым**, **Аляксандрам Фядутам**, **Андрэем Дзмітрыевым**, **Сяргеем Вазняком**, а таксама кандыдатам у прэзідэнты **Віталём Рымашэўскім** і маладафронтаўкай **Настай Палажанкай**. Іх абвінавачваюць у дзеяннях, што груба парушаюць грамадскі парадак.

Суд пройдзе ў Фрунзенскім раёне сталіцы. Кіраваць на ім будзе Жанна Жукоўская. Яна ўжо трапіла ў спіс невыязных у краіны Еўрасаюза пад 153-м нумарам.

Напярэдадні суда лідар кампаніі «Гавары праўду» Уладзімір Някляеў праз жонку Вольгу перадаў зварот у Мінскі гарадскі суд. Някляеў просіць спыніць супраць яго і іншых удзельнікаў Плошчы крымінальную справу за адсутнасцю складу злачынства. Сваёй віны паэт не прызнае.

Даты судоў над астатнімі ўдзельнікамі Плошчы яшчэ не прызначаныя.

**Зміцер Панкавец**



PHOTO BY MEDIA.NET

На тых некалькіх участках Мінска, дзе камісіі дазволілі назіраць за падлікам галасоў ад пачатку да канца, Саннікаў выходзіў на другое месца з больш чым 20% галасоў. На гэтых участках Лукашэнка набіраў трохі менш за 40%.

**Працэс Андрэя Саннікава (з мікрафонам справа) пачнецца 27 красавіка.**

# Фядута: План Плошчы быў распісаны на тры дні

Але Някляева выбілі, а Саннікаў, на думку Аляксандра Фядуты, павёў людзей не туды.

Паліттэхнолаг, каардынатар кампаніі «Гавары праўду» Аляксандр Фядута ў інтэрв'ю «Нашай Ніве» расказвае пра новыя невядомыя дагэтуль дэталі Плошчы 19 снежня.

**«НН»: Ці бачылі Вы артыкулы ў «Советской Белоруссии», што друкавалі кампрамат на лідараў апазіцыі, у тым ліку на Вас, што можаце сказаць?**

**АФ:** Народ любіць шпіёнскія раманы. Я не Павел Якубовіч, мне нельга разгалошваць таямніцу следства. У любой краіне свету, калі рэдактар друкуе матэрыял, які знаходзіцца ў праверцы следства, то яго выклікаюць у суд. Калі не выклікалі рэдактара «СБ», то гэта гаворыць, альбо, што ў нас усё вельмі добра з дэмакратыяй, альбо, што ёсць выданні, якім дазволена больш, чым астатнім. Але не мне судзіць. Я ведаю Паўла Якубовіча па розных сітуацыях. Напрыклад, па такіх, калі ён сябе вёў зусім па-іншаму. Я не вырашыў, як да гэтага ўсяго ставіцца.

**«НН»: Падзеі 19 снежня пайшлі па сцэнары «Гавары праўду»?**

**АФ:** Да моманту прыходу на плошчу Незалежнасці ішлі па нашым сцэнары, хоць і не было Някляева. Астатняе — вынік адсутнасці дамовы па тактыцы. Трэба жорстка выконваць патрабаванні і чуць аргументы адно аднаго. Нягледзячы на тое, падабаюцца вам тыя людзі ці не. Мяне не было на Плошчы і з той прычыны, што мяне б проста ніхто не пачуў, нават калі б я трансляваў словы Някляева. Усе ведаюць, што з людзьмі Саннікава я не размаўляю 10 гадоў, усе ведаюць мае напружаныя адносіны са Статкевічам.

**«НН»: Тое, што адбылося ля Дома ўрада было правакацыяй?**

**АФ:** Не ведаю. Гэта таямніца следства. Цяпер людзі знаходзяцца пад арыштам. Калі мне выказваць сваю думку, то трэба казаць, што я думаю пра Саннікава, пра Статкевіча, пра Халіп, пра Бандарэнку. Я цяпер думаю толькі адно: яны павінны, калі і атрымаць, то найменшыя тэрміны. І мы павінны зрабіць усё, каб яны выйшлі на волю як мага хутчэй. Усё астатняе — пасля суда.

**«НН»: Калі б быў Някляеў, то ўсё б склалася па-іншаму?**

**АФ:** Я лічу, што так. Справа ў тым, што пакрокавая тактыка была распрацаваная, распісаная. Быў план, распісаны на тры дні. Калі выбілі Някляева, то ніводны з кіраўнікоў «Гавары праўду» не меў такога аўтарытэту.

**«НН»: Дык «Гавары праўду» пусціла падзеі 19 снежня на самацёк пасля збіцця Някляева?**

**АФ:** Не. Проста ў нас не было публічнай асобы, якая б магла стаць побач. Фактычна, афіцыйнай асобай Някляева на Плошчы апынуўся Саннікаў, з якім была заключаная дамова аб супрацоўніцтве. У мяне ўзнік цэлы шэраг пытанняў: навошта было ламацца ў галоўны ўваход Дома ўрада, калі і я, і Саннікаў дакладна ведаем, што трэба націснуць гузік з левага боку ад уваходу. І да вас абавязкова мусіць выйсці ахоўнік. Незалежна ад таго, ці прыйшло 10 чалавек, ці 10 тысяч. Але на гэтыя пытанні адказы можна атрымаць толькі пасля вызваленняў.

**«НН»: Вы думаеце, хаўрус з Саннікавым — гэта памылка?**

**АФ:** У кожнага з нас тут свая пазіцыя. Дзмітрыеў, напрыклад, быў прыхільнікам гэтага хаўрусу, а я — праціўнікам. Але я не настойваў на сваім пункце гледжання, бо мог быць неаб'ектыўным. Калі Саннікаў прапанаваў хаўрус, то мы шмат думалі. Рашэнне прымалася калегіяльна.

**«НН»: Ад падзей 19-га нехта выйграў?**

**АФ:** Усе прайгралі, у тым ліку і ўлада. Яна, магчыма, прайграла найбольш. Ад чаго выйграла Расія? Што павесіла на сябе зноў адказнасць за Лукашэнку? Яна не зможа з'есці Беларусь, гэта і так усе бачаць. Больш інтэграваца, чым сёння, ужо немагчыма.

**«НН»: Хто даў загад збіць Някляева?**

**АФ:** Хутчэй за ўсё, той, хто быў зацікаўлены ў радыкалізацыі Плошчы. Бо Някляеў павінен быў зрабіць усё, каб Плошча была кіраванай і мірнай. Адзін з кадэбістаў быў пытаўся ў мяне: «Няўжо вы думаеце, што мы былі ў гэтым зацікаўленыя?» Я не ведаю, каб ведаў, то адказаў бы: «Вы». Улада была зацікаўленая ў прызнанні выбараў, а для прызнання Плошча павінна была быць мірнай. Я разумею, што Лукашэнка — чалавек эмацыйны, але тады пытанне, хто яго справакаваў, хто яго палохаў.

**«НН»: Як аказалася, што за некалькі хвілін да Плошчы Статкевіч быў на офісе «Гавары праўду»?**

**АФ:** Мы прапаноўвалі яму ісці разам з Някляевым. У інтэрнэце было шмат рознай інфармацыі. Напрыклад, што Мікола быў самы радыкальны кандыдат. Калі мы хацелі мірнай акцыі і мінімізацыі радыкалізму, то зразумела, што перамовы са Статкевічам трэба весці. Я вельмі ўзрадаваўся, калі пабачыў яго ў штабе. Гэта пэўная гарантыя, што асаблівага радыкалізму не будзе. Разам з тым, мы не планавалі, што калона пойдзе ад штаба, мы думалі пра іншае месца.

**«НН»: Чаму Вы баяліся радыкалізацыі Плошчы, былі нейкія падставы?**

**АФ:** Былі розныя назіранні, адчуванні, звесткі. Мне вельмі не падабалася тое, што рабілася апошнія два тыдні [перад выбарамі].

**«НН»: Што будзе далей? Ці будзе «Гавары праўду» працягваць дзейнасць?**

**АФ:** Далей будзе суд. А там паглядзім. Мы ўлічваем сітуацыю знізу. Я пачытаў судовую справу — да мардабою справа не дойдзе паміж намі. Нельга сказаць, што нехта закладваў кагосьці. Трэба падлічыць, хто ў нас застаўся, якія ў нас штыхі. Гэта трэба прааналізаваць. Да суда мы тое не зробім, мы не зробім гэта без Някляева.

**Гутарыў Зміцер Панкавец**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**У турме Фядута пахудзеў на 15 кг і адградаваў вусы.**

Аляксандр Фядута — паліттэхнолаг, публіцыст, па-за палітыкай — гісторык культуры XIX стагоддзя.

# Саюз пісьменнікаў з нагоды выбуху асудзіў ворага Чаргінца



Прэзідыум Саюза прыняў заяву з нагоды выбуху ў метро.

Пісьменнікі не толькі асудзілі «бесчалавечны акт», але і падтрымалі «крокі ўлад па абмежаванні дзейнасці некаторых сайтаў у інтэрнэце, якія заклікаюць людзей да гвалтоўных дзеянняў у адносінах да органаў улады і грамадства». Саюз пісьменнікаў (СПБ) таксама скарыстаўся нагодай тэракта, каб... асудзіць Яўгена Ліпковіча. Яўген Ліпковіч вядзе сатырычны блог у інтэрнэце і ў ім, у прыватнасці, высмейвае кіраўніка СПБ.

«Саюз пісьменнікаў Беларусі рашуча асуджае дзейнні падобных асоб, так званых апазіцыянераў, як Яўген Ліпковіч, які выкарыстоўвае фашысцкія метады, заклікае да спальвання ў грамадскіх месцах кніг, так або інакш садзейнічае тым адмоўным сілам, чые дзеянні накіраваны супраць народа Беларусі і яго ўлады».

Нагадаем, што Ліпковіч другі год запар паліць кнігі кіраўніка СПБ Мікалая Чаргінца. Ён называе гэтую акцыю «Днём абароны маладой беларускай маральнасці».

«Звяртаемся да ўсіх, хто лічыць сябе апазіцыяй, праявіць цвярозасць і спыніць спрыянне тым сілам унутры краіны і за мяжой, якія выношваюць і ажыццяўляюць планы па парушэнні спакою і парадку ў нашай краіне», — пафасна заклікае прэзідыум.

Ліпковіч у часе свайго перформансу іранізаваў: «Маладая беларуская маральнасць мае патрэбу ў абароне... Не пабіў тэлевізар [з прапагандысцкімі перадачамі], не спаліў Чаргінца — дзень пражыты дарэмна, маральнасць пацярпела».

Ліпковіч абыгрываў той факт, што набліжаны да Лукашэнкі пісьменнік Чаргінец узначальвае не толькі Саюз пісьменнікаў, але і Беларускую грамадскую раду па маральнасці.

Заяву з асуджэннем Ліпковіча апублікавала на першай паласе вялікім кеглем газета СПБ «Літаратура і мастацтва».

Дарэчы, на старонцы 4 таго ж нумара друкуецца вялікі артыкул «Космас Мікалая Чаргінца». Фота Чаргінца красавалася і на першай паласе мінулага нумара газеты.

**Кастусь Матушыч**

# Невіртуальная рэальнасць



Вызвалены сын мільянера Касперскага, вытворцы камп'ютарных антывірусаў.

24 красавіка супрацоўнікі расійскай міліцыі пры падтрымцы спецслужбаў у адным з падмаскоўных раёнаў вызвалілі 20-гадовага Івана Касперскага. У часе аперацыі былі затрыманыя пяць чалавек. Паводле следства, яны з'яўляюцца прадстаўнікамі адной сям'і, з дапамогай выкупу хацелі вырашыць праблемы выплаты крэдытаў. Арганізатар выкрадання мае судзімасць.

Івана Касперскага выкралі 19 красавіка па дарозе на працу. За яго вызваленне патрабавалі 3 мільёны еўра.

Цягам аперацыі па вызваленні праваахоўныя органы не давалі ніякіх каментароў. Адмоўчваўся і Яўген Касперскі. 21 красавіка «Лабараторыя Касперскага» распаўсюдзіла адмысловую заяву, у якой папрасіла СМІ «ўстрымацца ад распаўсюджвання спекуляцый і чутак пра падзеі, якія тычацца членаў сям'і Яўгена Касперскага». 22 красавіка стала з'яўляцца непацверджаная інфармацыя, што сына Касперскага вызвалілі за ўзнагароджанне.

Іван Касперскі працуе ў кампаніі InfoWatch, што належыць яго маці Наталлі Касперскай, сузаснавальніцы ЗАТ «Лабараторыя Касперскага», адной з 50 самых паспяховых жанчын Расіі. Кампанія распрацоўвае сродкі папярэджання ўцечкі сакрэтнай інфармацыі.

Заснавальнік кампаніі «Лабараторыя Касперскага» Яўген Касперскі, паводле звестак Forbes, займае 125-е месца ў спісе расійскіх мільярдэраў з 800 млн даляраў. Кампанія выпускае антывірусы і іншыя сродкі камп'ютарнай бяспекі.

Выкраданне Івана Касперскага стала другім гучным інцыдэнтам з удзелам дзяцей вядомых расійскіх бізнесоўцаў за апошні час: 25 сакавіка ў Маскве знікла дачка топ-менеджара «Лукойла» Роберта Цеслюка 16-гадовая Вікторыя.

**Сямён Печанко**

# У Мінску адчыняць «дзіцячы сад для старых»

Старэнькіх бацькоў можна будзе ўладкоўваць на дзённы час.

У камітэце па працы, занятасці і сацыяльнай абароне Мінгарвыканкама распрацоўваецца нарматыўна-прававая база для новага сацыяльнага праекта. Мінчане атрымаюць магчымасць за плату ўладкоўваць сваіх старэнькіх бацькоў на дзённы час у спецыяльны стацыянар, дзе тыя атрымаюць належны догляд і ўвагу, а ўвечары іх можна будзе забіраць дадому.

«У Мінску такія ахвотныя ёсць. Не ўсе хочуць аддаваць блізкіх у інтэрнат, дый месцаў там мала», — патлумачыла старшыня камітэта Жанна Рамановіч. Плануецца, што першыя дзённыя групы для старых з'явяцца ў Кастрычніцкім раёне. Пры станоўчых выніках досвед распаўсюдзяць на ўсе раёны.

Таксама ў сталіцы стартаваў сацыяльны праект «Пажылыя — старым». У яго рамках актыўныя пенсіянеры будуць аказваць платную дапамогу састарэлым нямоглым людзям. Ужо сфармавана група з 200 ахвотнікаў.

**Паводле «Мінск-навіны»**



# З 10 мая ў Мінску пачнуць адключаць гарачую ваду

Першымі адчуюць бытавыя нязручнасці жыхары вуліц Казінца, Каржанеўскага, Ангарскай, Сацыялістычнай, Баграціёна, Сталетава, Філімонава — усяго больш за 30 вуліц.

**БелТА**

# 22-гадовы цяжкаатлет загінуў у аўтакатастрофе

Машына з Сяргеем Лагуном ударылася ў дрэва.

У пятніцу ў Наваполацку адбылася страшная катастрофа. Разбіліся два вядомыя цяжкаатлеты Сяргей Лагун і Яўген Жарнасек. Лагун памёр на месцы, а Жарнасек у цяжкім стане трапіў у рэанімацыю. У яго пашкоджаны хрыбет.

27 мая Лагуну споўнілася б усяго толькі 23 гады. Поспехі да яго пачалі прыходзіць на мала-дзёжным узроўні, у 2007 годзе ён заваяваў залаты медаль на чэмпіянаце свету ў Празе. Потым былі ўдалыя выступы і на дарослым узроўні.

На чэмпіянатах свету 2009 і 2010 Лагун браў медалі.

Летась у Турцыі паказаў найлепшую вагу ў рыўку. Трэнеры зборнай казалі, што гэта спартсмен аднаго калібру з алімпійскім чэмпіёнам Андрэем Арамнавым.

Сам Лагун быў з Верхнядзвінскага раёна, але з 12-гадовага ўзросту трэніраваўся ў вучылішчы алімпійскага рэзерву ў Наваполацку.

«Мне падабаецца ягоны падыход да працы, стараецца выкладвацца на трэніроўках, заўсёды заражданы на поспех, прыемны хлопец», — казаў пра яго трэнер зборнай.

**Зміцер Панкавец**




# Як жыць? На ўсялякі выпадак — прыстойна!

30 сакавіка споўнілася 80 год гродзенскаму навукоўцу Аляксею Пяткевічу.

Калісьці 90-гадовага польскага прафесара Уладзіслава Барташэўскага спыталі: як жыць? Ён адказаў проста: на ўсялякі выпадак — прыстойна. Па такім прынцыпе жыве і прафесар Аляксей Міхайлавіч Пяткевіч **(на фота злева)**.

Ягоная навуковая кар'ера пачалася ў Мінску на філфаку БДУ, затым у Інстытуце літаратуры Акадэміі навук, але з 1957 г. звязаная з адным горадам і адным універсітэтам. Пяткевіч зрабіўся неадрыўнай часткай гісторыі і культуры Гродна.

Працоўная кар'ера маладога А.Пяткевіча пачыналася з пасады выкладчыка кафедры беларускай літаратуры, у 1968 — 1974 гг. ён быў яе загадчыкам. Аляксей Міхайлавіч — аўтар манаграфій і падручнікаў для ВНУ па гісторыі беларускай культуры. Цудоўны лектар, сапраўдны інтэлігент, актыўны грамадзянін, сумленны чалавек — усё гэта вылучала Пяткевіча. І студэнты гэта адчувалі, любілі і любяць яго ад шчырага сэрца. Ён быў адным з ініцыятараў надання Гродзенскаму дзяржаўнаму ўніверсітэту імя Янкі Купалы.



Ужо ў сярэдзіне 1980-х Аляксей Міхайлавіч Пяткевіч настойліва ставіў перад адміністрацыяй Гродзенскага дзяржуніверсітэта пытанне аб стварэнні кафедры беларускай культуры. Нарэшце ў 1990 г. адміністрацыя ўніверсітэта падтрымала ініцыятыву. Спачатку яе ўзначаліў прафесар Павел Сцяцко, а з 1991 г. — ужо сам Аляксей Пяткевіч.

Заслужаны прафесар, найвышэйшай пробы інтэлігент Аляксей Міхайлавіч Пяткевіч можа навучыць патрыятызму яшчэ не адзін дзясятак студэнтаў. У гуманітыцы ўзрост — гэта перавага. Карыстацца мудрасцю вядомых інтэлектуалаў — абавязак грамадства.

**Альбіна і Генадзь Семянчукі, дацэнты ГрДУ імя Янкі Купалы**

# Чаму для Лукашэнкі Мінск стаў «свядомым» і «творчым»?

Абрамава: Непрыязь Лукашэнкі да мінчукоў, магчыма, звязана з вынікамі выбараў.

У сваім звароце да нацыянальнага сходу і народа Лукашэнка ўпарта называў Мінск «свядомым». У ягоным лексіконе гэтае слова мае абразлівае значэнне. «Свядомымі» лукашэнкаўцы называюць людзей, апазіцыйных па светапоглядзе, або тых, якія прынцыпова размаўляюць па-беларуску. Гэтае слова ўвайшло ў лукашэнкаўскую трасянку ў 1990-я. Тады некаторыя інтэлектуалы праводзілі розніцу паміж «свядомымі» і «несвядомымі» беларусамі, г.зн. тымі, якія вызнаюць нацыянальныя і дэмакратычныя каштоўнасці, і тымі, для якіх яны не маюць значэння. Лукашэнкаўскія прапагандысты слова падхапілі. Ім падалося, што такое азначэнне абражае і тым самым мабілізуе «несвядомых», вось яны яго і запусцілі ў абарот. Гэта была гульня на ўласцівай некаторым людзям варожасці да інтэлігенцыі.

Напрыклад, пра цукровую паніку Лукашэнка ў сваім звароце сказаў: «У свядомым творчым [гэтыя словы ён вымаўляе па-беларуску, здзекліва] Мінску гэта пачалося і тут скончыцца».



PHOTO.BYMEDIA.NET

Назіральнікі ведаюць, што такія фразы не праскокваюць у Лукашэнкі выпадкова.

Экс-дэпутатка Вольга Абрамава ў інтэрв'ю «Еўрарадыё» аналізуе: «Двойчы згадваецца, калі ў першым выпадку гэта магло быць выпадковым, то два разы — гэта ўжо кажа пра тэндэнцыю, асабістую непрыязнасць да Мінска, двойчы згаданага ў негатыўным ключы. Магчыма, гэта было звязана з ацэнкай паводзінаў мінчукоў на выбарах».

Як вядома, у Мінску на апошніх выбарах быў шэраг участкаў у розных раёнах горада — як цэнтральных, так і перыферыйных, дзе камісіі дазволілі назіральнікам сачыць за падлікам галасоў. Дык вось, на гэтых участках у сярэднім Лукашэнка набіраў менш за 40%. І гэта з улікам датэрміновага галасавання, у скрынках для якога колькасць галасоў за Лукашэнку зашкальвала.

Пасля выбараў Аляксандр Лукашэнка некалькі разоў загадаў спыніць разбудову сталіцы і абмежаваць далейшы рост яе насельніцтва. Ён прапануе, замест гэтага, стварэнне меншых, а значыць, лягчэй кіраваных гарадоў-спадарожнікаў.

**Мікола Бугай**

# Даляр альбо дэвальвацыя: што выбраць?

Апытанне «НН».

Апошнімі днямі складваецца адчуванне, быццам беларусы самі ўжо хочуць дэвальвацыі рубля — такі сабе эканамічны цуд. Што лепш: стаяць 122-м у чарзе да абменніка ці купляць дарагую валюту? І што карысней для эканомікі: танны даляр, якога няма, альбо дэвальвацыя? З такім пытаннем «НН» звярнулася да людзей розных поглядаў і прафесій.

**Аляксандр Таўстыка, прадпрымальнік:**

«Для прадпрымальнікаў будзе лепей, калі даляр з'явіцца. Мы разлічваем, што нармальны курс зараз — 3800–3900. Можа, трошкі менш, можа, трошкі вышэй. Але болей за ўсё мы хочам, каб як мага хутчэй сышлі гаранты, якія не могуць нічога гарантаваць».

**Ігар Сарокін, псіхатэрапеўт:**

«З «рэальнага» і «афіцыйнага» лепш выбраць «рэальнае». Хай лепш з'явіцца даляр, а не людзі пакутуюць у яго пошуках. Жыць рэальным жыццём усё адно лепш, чым глядзець тэлевізар».

**Зміцер Безкаравайны, музычны крытык:**

«Няхай даляр лепш будзе па сваім сапраўдным курсе — будзе менш панікі».

**Яўген Ліпковіч, блогер:**

«Я размаўляў з адным досыць вядомым эканамістам, і ён мне сказаў, што разглядалася два варыянты выхаду з валютнай сітуацыі. Першы — дэвальвацыя 40 працэнтаў, рэзкае зніжэнне ВУП, але праз год — нармалізацыя, інфляцыя 10 працэнтаў, і, у прынцыпе, нармальная эканамічная сітуацыя. Другі сцэнар — множнасць курсаў, ВУП захоўваецца, нічога не абвальваецца, але працягваецца так будзе тры гады. Падаецца, нашыя ўлады выбралі другі сцэнар».

**Сяргей Касцян, старшыня Беларускага славянскага камітэта:**

«Я не эканаміст, але як палітык лічу так: трэба, каб сітуацыя змянілася да лепшага. То бок хай у краіне будзе валюта па тым курсе, які цалкам адпавядае рэчаіснасці. Так будзе лепей для ўсіх нас».

**Юрась Ускоў**

# «Уол-стрыт джорнал»: Шызафрэнічная валютная палітыка Беларусі

Нічога дзіўнага, што дыктатура дае дзяржаўным прадпрыемствам перавагу перад людзьмі.

Аглядальнік уплывовай газеты фінансавых колаў назваў цяперашнюю палітыку беларускіх уладаў «шызафрэнічнай», маючы на ўвазе наяўнасць двух курсаў рубля. «Нічога дзіўнага, што ў аўтарытарнай краіне, дзе адбыўся пагром апазіцыі, дзяржава дае прадпрыемствам, многія з якіх дзяржаўныя, перавагі перад людзьмі», — піша газета. Яна адзначае, што банкі ў Беларусі знаходзяцца пад жорсткім дзяржаўным кантролем.

«Шляхам дэвальвацыі рубля і іншых крокаў, якія Лукашэнка называе рэформамі, — іранізуе газета, — ён спрабуе дабіцца атрымання $3 мільярдаў крэдыту ад Расіі і саюзных краін, каб пазбегчы дэфолту ці фінансавай катастрофы».

Артыкул «Уол-стрыт джорнал», прысвечаны сітуацыі на фінансавым рынку Беларусі пасля ўвядзення свабоднага курса рубля для прадпрыемстваў, трапіў у спіс самых чытаных матэрыялаў еўрапейскага анлайн выдання газеты.

**Сяргей Гезгала**

# Васалы

Вершаваны фельетон

Імперская хіжасць —
Як рана старая.
Яе не спатолілі
Нават вякі.
Здабычу шукае
І зноў пазірае
Расійскі арол
У абодва бакі.
Быў «Северо-Западный край».
Як васалы,
Жылі беларусы ў «арла» да пары.
Народа душу,
Бы нажамі, крамсалі,
Жыўцом раздзіралі
Яго кіпцюры.
І вось яна, воля...
«Заліжам мы раны, —
Так думалі, —
Будзем мы звацца людзьмі!»
Аднак, на шкадобу,
Усцешвацца рана.
Ва ўсім мы залежныя —
Што ні вазьмі.
На гэту залежнасць
Згадзіліся самі.
Нікчэмнасць-заганнасць сваю —
Напаказ.
І зноў жа Расія:
— Вы — нашы васалы!
Мы танна дадзім вам
І нафту, і газ.
Навошта цяпер нам
Уласнае крылле?
Нас возьме
Расійскі арол пад крыло!
Ад радасці
Продкаў святыні згнаілі,
Ад шчасця
Аж мову сваю адняло.
Нашто нам святыні?
Навошта нам мова?
Ёсць «русский
Великий могучий язык».
Яго мы пазычыць,
Засвоіць гатовы,
Каб нават сумнеў
У Расіі не ўзнік.
Ды з нафтаю-газам —
Не вечна халява.
Абдымкі-цалункі
Былі да пары.
— Плаціце! —
Сказала суседка-дзяржава. —
Па поўнай праграме
Плаціце, сябры!
«Залезлі ў тарфянікі»
Мы, небаракі,
І Венесуэла
Нам нафту дае.
І скеміла ўлада:
Ва ўсім і ва ўсякім
Патрэбна разлічваць
На сілы свае.
* * *
Калі ж беларускаю
Быць Беларусі
І ў «мове» патрэба
Зноў з'явіцца ў нас?
Тады, як Расія,
Нарэшце, прымусіць
Плаціць за «язык»,
Як за нафту і газ.

**Алесь Няўвесь**

## З ПОШТЫ РЭДАКЦЫІ

### Прывітанне, паважаныя сябры!


Прывітанне паважаныя сябры! Піша Вам пастаянны чытач Аўтуховіч Мікалай Мікалаевіч. Дзякуй Вам усім за Вашу працу, за мужнасць і ўпартасць. Шмат людзей ў калоніі здзіўляюцца, што раней не ведалі пра „Нашу Ніву", проста адрываюць з рукамі ў мяне. Я атрымліваю

Піша Вам пастаянны чытач Аўтуховіч Мікалай Мікалаевіч. Дзякуй Вам усім за Вашу працу, за мужнасць і ўпартасць.

Шмат людзей у калоніі здзіўляюцца, што раней не ведалі пра «Нашу Ніву», проста адрываюць з рукамі ў мяне.

З павагай да ўсіх,
Мікалай Аўтуховіч
Дзякуй усім за падтрымку!
Трымайцеся!

### Беларускае радыё лепей ведае

18 сакавіка паміж 9-й і 10-й у эфіры Першага нацыянальнага канала прагучала такое, ад чаго на маёй сівой галаве валасы дуба сталі. Дыктар вяшчаў, што згодна з апытаннем (якім, калі і кім яно праводзілася, не згадвалася), больш за 30% немцаў, не менш за 40% французаў, а таксама да 60% іспанцаў выказаліся на карысць аўтарытарнага кіравання сваімі краінамі.

Выходзіць, кіраваць ЕС павінен аўтакрат кшталту Гітлера, Франка ці Лукашэнкі?..

Асабіста я не веру адсоткам, на маю думку, хлуслівым, згаданым дыктарам у сваім выказванні, але ў гэты самы час гэтыя выказванні чулі мільёны працаўнікоў і працаўніц фабрык і заводаў. У цэхах, я ведаю, Першы нацыянальны радыёканал уключаны заўсёды. Менавіта на гэтыя мільёны разлічваліся выказванні, каб яшчэ больш замбаваць і без таго замбаваных саўкоў і тым самым увекавечыць дыктатуру Лукашэнкі і яго сямейнага клана.

Я не дасылаю пісьмо на радыё, заранёў ведаючы адказ.

**Мікола Яўмененка, Чудзенічы (Лагойскі раён)**

### Міхалевіч разумна зрабіў

Алесь Міхалевіч разумны, адэкватны малады чалавек. Што чакаць з мора пагоды? Пра салідарнасць наш народ не разумее, інакш чаму не спыніць работу рабочы клас Мінска і не скажа: «Невіноўных — на волю!» Трусаватыя мы — па сабе ведаю. Алесь хітра паступіў (хітрасць — адна з якасцяў розуму). «Там» ён будзе больш карысны.

Пакуль наш народ будзе чакаць вынікаў «натуральнага адбору», у нашых патрыётаў і жыццё пройдзе ў турмах.

**В.Слаўнікава, Магілёў**

### «Архівіст у турме» (№10): Я ведаю гэтага чалавека

Прачытаўшы ў «НН» артыкул «Архівіст у турме», згадала свае кароткія сустрэчы са Змітром Драздом. Пазнаёміліся мы на глебе агульнага захаплення складаннем асабістага радаводу. Спачатку заўважыла яго на генеалагічным форуме ў сеціве: слушныя парады ён даваў пачаткоўцам. Потым, аднойчы ўбачыўшы яго ў чытальнай зале архіва, не змагла пазбегнуць спакусы — падышла знаёміцца.

Зміцер ніколі не адмаўляў мне ў дапамозе. Хлопец ён вельмі разумны, са светлай галавой. Бывала, што найкаштоўнейшыя ідэі сыпаліся «ў скарбонку» чалавека, з якім Зміцер пазнаёміўся паўхвіліны таму.

Разумны, таленавіты, з адкрытай душою, улюбёны ў свой родны край — дзяржава павінна была ганарыцца такім грамадзянінам. Па-добраму зайздрошчу ягонай маці, якая здолела выгадаваць такога сына.

Кніга Змітра «Землеўласнікі Мінскай губерні 1861—1900» стала для мяне неабходным даведнікам дзеля складання радаводу: рука мая раз-пораз цягнецца да палічкі з «Даведнікам…», дзе чакаюць мяне адказы на мае пытанні.

Зміцер выдаў кнігу за ўласны кошт і паспеў рэалізаваць толькі частку накладу. Цяпер рэшту прадае яго маці — сям'я са сціплымі даходамі апынулася ў цяжкім матэрыяльным становішчы пасля арышту Змітра.

Інфармацыя для тых, хто зацікавіўся кнігай Змітра Дразда: набыць «Даведнік…» можна ў магазіне «Акадэмкніга» (пр.Незалежнасці, 72).

Магчыма таксама звярнуцца не пасрэдна да сям'і Змітра Дразда праз інтэрнэт-сайты Vgd.ru (тэма на форуме «Даведнік «Землеўласнікі Мінскай губерніі 1861—1900»») у раздзеле «Беларусь» альбо клікнуць банар «Дабрачынная акцыя ВГД» на галоўнай старонцы сайта) і асабісты сайт Змітра prodki.narod.ru. У гэтым выпадку кніга абыдзецца танней.

**Святлана Міхалоўская, пенсіянерка, Мінск**

«НН» з радасцю друкуе ў газеце і на сайце www.nn.by чытацкія лісты, водгукі і меркаванні. З прычыны вялікага аб'ёму пошты мы не можам пацвярджаць атрыманне Вашых лістоў, не можам і вяртаць неапублікаваныя матэрыялы. Рэдакцыя пакідае за сабой права рэдагаваць допісы. Лісты мусяць быць падпісаныя, з пазнакай адраса. Вы можаце дасылаць іх поштай, электроннай поштай ці факсам.

**Наш адрас: а/с 537, 220050 Мінск.**
**e-mail: nn@nn.by.**
**Skype: nashaniva**

Нагадаем, што ў рубрыцы «Меркаванні» публікуюцца артыкулы, якія могуць супадаць, а могуць і не супадаць з меркаваннем Рэдакцыі.

# Невядомыя зоны

Беларускі Чарнобыль — гэта не толькі Брагін ды Хойнікі. Піша **Сямён Печанко**.



Апошні выпуск, 1991 г.

У вёсцы Востухава, што на мяжы Карэліцкага і Навагрудскага раёнаў, на месцы былой школы цяпер пустка. Ад цаглянага будынка засталіся фрагменты падмуркаў ды рэшткі ганка, на якім раней фатаграфаваліся выпускнікі. А некалі тут вiравала жыццё. Школьны двор патанаў у квецені саду.

Апошні выпуск у Востухаўскай школе, пяты з моманту аварыі на ЧАЭС, адбыўся ў 1991 годзе. Будынак школы разбурылі, з двара і стадыёна знялі грунт і вывезлі на спецыяльную пляцоўку. Разам з іншымі школу разбіралі настаўнікі. Сярод іх быў мой бацька, які адпрацаваў у той школе настаўнікам амаль 10 год.

Бацькі прыгадвалі, што першыя гады пасля аварыі дарога з працы давалася цяжка. «Ішлі ад лавы да лавы: пройдзеш кіламетр — прываліўшся на лаве да плота».

«Мы доўгі час нічога не ведалі. Потым з'явіліся дазіметры. У школе выявілі высокі радыяцыйны фон», — прыгадвае настаўніца біялогіі Галіна Лейка, класная кіраўніца апошняга выпуску Востухаўскай школы.

## Свае-чужыя

У 1991-м я пайшоў у пяты клас васьмігодкі ў Заполлі, што побач з Карэлічамі. У той год да нас далучыліся вучні і настаўнікі ліквідаванай Востухаўскай школы. Спачатку мы, дзеці, успрымалі навічкоў з насцярогай (таямнічай напружанасці дадавалі бязглуздыя, як на сённяшні розум, байкі пра ліквідатара Федзю «Чэрапа» з Востухава, які, нібыта, пасля вахты ў Чарнобылі аблысеў і свяціўся ўночы, як лямпачка).

Востухаўскія таксама не адразу змірыліся з пераменамі і, хоць не былі перасяленцамі і жылі ў лічаных кіламетрах ад нас, здаецца, доўга яшчэ адчувалі на сабе адбітак сваёй асаблівасці.

Дзякуючы таму, што ў нас пачалі вучыцца дзеці з забруджанай тэрыторыі, школу ўключылі ў так званыя чарнобыльскія праграмы. Гуманітарная дапамога, аздараўленне за мяжой — усё гэта стала будзённасцю. Як і захворванні шчытападобнай залозы, якія выяўлялі не толькі ў дзяцей-прыбышоў, але і ў тых з нас, хто бавіў лета ў дзядоў у забруджаных вёсках.

Мяжа паміж намі, дзецьмі, паступова знікала. Затое расла прорва паміж нашымі вёскамі. У маім Красным пабудавалі навюткую трохпавярховую школу са спартзалай. З'явілася некалькі новых вуліц, забудаваных прасторнымі катэджамі, у некаторыя з якіх перасяліліся сем'і нашых «чарнобыльцаў». У іхніх жа вёсках тым часам пусцелі хаты, зачыніўся клуб...

## Радыяцыя не кусаецца

Дарога з Карэліч у Шчорсы, імклівы ўзлёт трасы ўгару — і перад вамі адкрываецца фантастычны від на Шчорсы, а таксама на лясы і паплавы, што цягнуцца да гарызонту. Калі грымнуў Чарнобыль, гэтая траса стала дарогай у мясцовую зону. У першыя пасля аварыі гады ў тутэйшых вёсках плацілі кампенсацыю сем'ям, чый падворак зачапіла радыяцыя. У народзе тыя выплаты хутка празвалі «грабавымі». Многія зайздросцілі суседзям, якім «пашчасціла» атрымліваць тыя грошы. Хтосьці праз гэта перастаў нават вітацца між сабой.

Калі ў шчорсаўскіх лясах знайшлі радыяцыю, большасць перастала хадзіць туды ў грыбы ды ягады. У Востухаве пачалі зарастаць сажалкі з карасямі ды акунямі. Многія пабралі дзяцей ды з'ехалі з забруджаных вёсак.

Але не ўсе паддаліся паніцы. Хтосьці з ахвотай прыняў веру ў ачышчальныя якасці «чарніла», а некаторыя, як сябар маіх старэйшых братоў, бадзёрылі сябе самападманам. «Якая радыяцыя? — пытаў ён мяне перад тым, як выправіцца ў грыбы пад Шчорсы. — Яна ж не кусаецца. Яе нават не бачна!»

## Свой Чарнобыль

За чвэрць стагоддзя, што мінула ад выбуху ў Прыпяці, некалі шматлюднае Востухава ды іншыя навакольныя вёскі апусцелі. І не адна радыяцыя тут вінаватая, бо такую ж карціну можна пабачыць і ў «чыстых» вёсках Карэліччыны. Але жыццё тут усё ж цепліцца. Але ёсць тое, што не дае забыць зусім свой знак бяды. Пляцоўка, на якой некалі стаяла Востухаўская сярэдняя школа, нібы стары шнар, паступова зацягваецца хмызняком і горамі смецця. Яна нібы напамін, што беларускі Чарнобыль — гэта не толькі Брагін, Нароўля ды Хойнікі. Гэта і Століншчына, і Валожыншчына, і Усходняя Магілёўшчына ды іншыя раёны краіны, у якіх трагедыя 25-гадовай даўніны таксама пакінула свае сляды.



СЯМЁН ПЕЧАНКО

Ад цаглянага будынка засталіся фрагменты падмуркаў ды рэшткі ганка.



Востухаўская школа, 1987 г.

# «У суботу» — напаўзакрыты паказ




**В субботу**

драма, Расея

Рэжысёр: Аляксандр Міндадзэ

У ролях: Антон Шагін, Святлана Смірнова-Марцінкевіч, Станіслаў Радзінскі, Вячаслаў Петкун, Сяргей Кузькін

Арт-хаўс на тэму Чарнобыльскай катастрофы з'явіўся на экранах Мінска.

У сакавіку на экраны выйшаў фільм Аляксандра Міндадзэ «У суботу», прысвечаны катастрофе ў Чарнобылі. Да Беларусі фільм дайшоў далёка не адразу. Спачатку не далі правоў на пракат. Сам Міндадзэ быў вельмі здзіўлены гэтай сітуацыяй і меркаваў, што, хутчэй за ўсё, фільм забаранілі.

Урэшце, «У суботу» ў Мінску паказваюць — праўда, у асноўным сеансы пачынаюцца ў 14.00.

Літоўская амбасада зладзіла спецыяльны журналісцкі паказ фільма «У суботу», дзякуючы чаму журналісту «Нашай Нівы» ўдалося пабачыць фільм раней за мінчукоў.

Слова «Чарнобыль» у фільме не ўзгадваецца ні разу, як няма і тлумачэння наконт месца і часу падзей.

Самой катастрофы ў фільме таксама няма: пачынаецца ён у першыя гадзіны пасля выбуху — партыйныя чыноўнікі наведваюць месца катастрофы і прымаюць рашэнне засакрэціць небяспеку. Сярод іх ёсць малады партыйны актывіст, які даведваецца пра рэальныя маштабы здарэння, але паведаміць нікому не можа. Ён адпраўляецца ў горад, спрабуе ўцячы з горада разам са сваёй знаёмай, але ў яе зламаўся абцас і на цягнік яны не паспяваюць.

Ніхто з тых, хто нават і здагадваецца, што адбылося, не верыць у рэальнасць катастрофы. Выходны дзень у горадзе ідзе сваім ходам — у мясцовым рэстаране святкуюцца камсамольскія вяселлі, ва ўнівермаг завозяць замежны абутак. Галоўны герой сустракае сваіх былых сяброў-музыкаў у тым самым рэстаране, дзе яны іграюць на вяселлі. І застаецца ў горадзе.

Фільм зняты на ручную камеру, што дапамагае візуальна раскрыць эмоцыі герояў — паніка, стан афекту і такі спецыфічны аптымізм, маўляў, усё адно ўсё будзе добра. Фільм паказвае не ядзерную катастрофу, а хутчэй катастрофу асобы, калі трэба бегчы, але асабліва няма куды. Парадаксальныя ўчынкі герояў: калі яны яшчэ могуць ускочыць у таварны цягнік, які вывезе іх з зоны, яны ідуць у начную краму, каб працягваць святкаваць выходны. І нават смак металу, які яны ўсе адчуваюць, спрабуюць заглушыць чырвоным віном.

Еўрапейцы не ўспрынялі фільм. Калі «У суботу» паказвалі на Берлінале, нямецкія і французскія рэжысёры не маглі зразумець, чаму кожнае дзеянне герояў — натуральны парадокс. Чаму яны не ўцякаюць? Патлумачыць не ўдалося.

Так сталася, што фільм аказаўся ўдвая актуальным — 25 гадоў катастрофе на Чарнобылі, а таксама, адначасова з выхадам у пракат, катастрофа на Фукусіме. І ў дадатак — падпісанне пагаднення па АЭС у Астраўцы. Пасля прагляду стаўленне да АЭС, тым больш айчынных, становіцца рэзка адмоўным. Ці не гэта было асноўнай прычынай таго, што фільм не адразу пусцілі на беларускія экраны?

**Юрась Ускоў**

**Паглядзець фільм «У суботу» можна:**

кінатэатр «Камсамолец» 29–30 красавіка 14:00

АПЫТАННЕ «НН»

# «Калі гінуць, дык з музыкай»

Новая АЭС ў Астраўцы: ці страшна за ўнукаў?

Напярэдадні 26 красавіка, сумнай даты для беларускай гісторыі, мы запыталі мінчукоў пра будучыню Беларусі і атамную энергію. Ці вераць беларусы ў бяспечны мірны атам? Жыхары сталіцы «за» ці «супраць» будаўніцтва новай АЭС у Астраўцы?



**Ніна, узрост не сказала:** Я за. Я прафесійна ў энергетыцы 20 гадоў адпрацавала і я ведаю, што ў нас няма іншага выйсця. Самая галоўная праблема, што мы залежым у энергарэсурсах ад Расіі.



**Арцём, 18 гадоў:** Я супраць. Гэта небяспечна. Можна як прыклад Японію прывесці.



**Ілля, 30 гадоў:** Моцна не задумваўся, але з пункта гледжання эканомікі нам сваіх энергарэсурсаў не хапае, таму трэба яе будаваць. Але навакольнае асяроддзе хочацца абараніць, таму неяк страшнавата.



**Уладзімір, 47 га-доў:** Усё залежыць ад кіраўнікоў, ад прэзідэнта і ўсіх іх. Калі гэта на карысць пойдзе, то варта будаваць.



**Наташа, 23 гады:** Я лічу, што зараз усё бу-дзе па новых тэхналогіях. Чаму б і не. Гэта ж чыста палітычнае, а я не люблю лезці ў палітыку, гэта там будуць вырашаць. Думаю, што цяпер ужо бяспечна.



**Віка, 15 гадоў:** Я думаю, што не страшна будаваць новую АЭС. Палітыка сама разбярэцца, а я думаю, што ўсё будзе нармальна.



**Данік, 10 гадоў:** Я супраць, бо можа адбыцца выбух.



**Максім, 19 гадоў:** АЭС не патрэбна. Электрычнасці і так хапае.



**Сяргей, 42 гады:** Трэба! Вопыт Чарнобыля нам паказвае, што дадзеная станцыя будзе болей сучасная.



**Лёля Багдана, 39 гадоў:** АЭС нам зусім не патрэбна. Асабліва на фоне той трагедыі, якая здарылася ў Японіі. У нас хапае ў Беларусі іншых рэсурсаў.



**Аляксандр, 45 гадоў:** Збольшага за. Мы ж акружаныя станцыямі... Ужо калі гінуць, дык з музыкай. Нічога добрага не бачу ў гэтым, але хай будуюць.



**Тамара Аляксандраўна, 45 гадоў:** Я за. Наша краіна квітнеючая, заўсёды мірная была, і такая сітуацыя, якая адбылася на Чарнобылі, канечне, недапусціма, але людзі і кіраўніцтва прыкладаюць усе намаганні, каб менш шкоды прынеслі наступствы Чарнобыля.



**Віктар, 51 год:** Я супраць. Гэта небяспечна! Баюся за дзяцей і ўнукаў.

**Настасся Шамрэй**

# Мільянер у дзяржаве для народа

Працяг са старонкі 1.

## Капітал на радзіме

У самой Бярозе Чыж выкупіў мясцовы сілікатны камбінат. Выкупіў без тэндара. Прадпрыемства абышлося яму ўсяго ў $148 тысяч. Мільянер правёў рэканструкцыю і закупіў якаснае нямецкае абсталяванне. Цяпер ААТ «Бярозаўскі камбінат сілікатных вырабаў» — адно з самых прыбытковых месцаў працы ў горадзе. «У нас сярэдні заробак больш за 2 мільёны рублёў!» — хваляцца супрацоўнікі грашыма далёка не раённага маштабу.

Яшчэ адным бярозаўскім прадпрыемствам, «Варыянтам», кіруюць браты Чыжа — Саша і Толік. Тут займаюцца вырабамі з дрэва. «Гэтае прадпрыемства стваралася для братоў», - прызнаецца Чыж. Цікавасць выклікае спіс кліентаў кампаніі — добрага, але далёка не адзінкавага іграка на рынку. А кліенты як на падбор — Міністэрства замежных спраў Расіі, Беларуская праваслаўная царква, чыгунка (у прыватнасці, вакзал у Мінску).

У Бярозе Чыж выкупіў і казармы XIX ст. У іх будынку цяпер месціцца аптовая база.

**Імперыя Юрыя Чыжа**

Нафтавы сектар (імпарт і экспарт нафтапрадуктаў, перапрацоўка нафты, аўтазаправачныя станцыі) — АДА «Белнафтагаз», САAA «НафтаХімТрэйдынг», СП ААА «Неонафта»*;

будаўніцтва (гіпермаркеты, забаўляльныя комплексы і жылыя дамы) — СЗАТ «Альтэрсолюшнс»;

вытворчасць будаўнічых матэрыялаў (газасілікатныя блокі, ПВХ- і алюмініевыя профілі, дрэваапрацоўка) — САAA «Варыянт», ААТ «Бярозаўскі камбінат сілікатных вырабаў»;

гіпермаркеты («Прастор») — СЗАТ «ПрасторМаркет»;

вытворчасць безалкагольных напояў;

рэстараны і кафэ — «У Францыска», «Гасцінны маёнтак», «Ракаўскі бровар» (з броварчыкам), «Салодкі фальварак», «Сябры», клуб «Овертайм»;

турызм — гарналыжны спартыўна-аздараўляльны комплекс «Лагойск»;

спорт — лядовая арэна ў Бярозе, футбольны клуб «Дынама (Мінск).

Апроч таго, аптовы гандаль металапракатам, аказанне мытных паслуг (ЗАТ «Аскаргатэрмінал»), аказанне транспартных паслуг, сельскагаспадарчае прадпрыемства на Астравеччыне, здабыча карысных выкапняў у Маларытчыне…

* Указаныя толькі кампаніі, у назве якіх не фігуруе слова «Трайпл», — «Акватрайпл», «Трайплэнерга» і г.д.

## Уласны лядовы палац

У Бярозе Чыжа лічаць паралельным кіраўніком горада. Высокі статус нясе разам з сабой яшчэ і дадатковую «сацыяльную нагрузку». Для мільянера яна выразілася ў будаўніцтве лядовага палаца ў Бярозе. У адрозненне ад суседніх Пружанаў, дзе спартыўны комплекс будаваўся за бюджэтныя грошы, а таму належыць райвыканкаму, бярозаўская арэна знаходзіцца ва ўладанні «Трайпла». Пра гэта сведчаць і флагштокі каля ўваходу ў палац. Побач з дзяржаўным і раённым сцягамі лунае фірмовая эмблема.

Паклапаціўся Чыж і пра сваё юнацкае спартыўнае захапленне — барацьбу. Апроч катка, у лядовым палацы ёсць сучасная барцоўская зала плошчай 390 м².



Сакрэт поспеху? Юрый Чыж (на фота справа) мае асаблівыя адносіны з Аляксандрам Лукашэнкам. Агенцтва БелТА адмовілася прадаць «Нашай Ніве» гэтае фота ў добрай якасці без тлумачэння прычын.

## Аднабаковы бартар

У Чыжа хапае інтарэсаў і ў Мінску. Мільянер даўно на кароткай назе са сталічнымі ўладамі. Самая вядомая і адначасова самая скандальная гісторыя звязаная з будаўніцтвам агромністага жылога комплексу каля Траецкага прадмесця. Праект чыжоўскага дома «Ля Траецкага» не абліяваў толькі лянівы. Не будзем у чарговы раз вінаваціць стваральнікаў праекта ў безгустоўнасці, а ўзгадаем, якім чынам Юрый Чыж атрымаў прыбытковую пляцоўку.

У верасні 2009 года Аляксандр Лукашэнка падпісаў указ №460, у якім абавязаў кампанію «Трайпл» у 2009—2011 ажыццявіць праектаванне, будаўніцтва і ўвод у эксплуатацыю крытага катка па праспекце Дзяржынскага ў Мінску. Аб'ект мусіў складацца з дзвюх лядовых пляцовак і шмат чаго іншага... Прычым кампанія Чыжа была абавязаная выдаткаваць уласныя сродкі, а пасля бясплатна перадаць крыты каток у камунальную ўласнасць Мінска. На паперы ствараўся двухбаковы бартар — у абмен «Трайплу» аддаваўся пляц каля Траецкага прадмесця. Прычым дзяржава нават брала на сябе выдаткі па адсяленні ўласнікаў знесеных дамоў на месцы элітнай будоўлі. Праект аказаўся паспяховым. З 215 кватэр свабоднымі засталіся менш за 40. А кошт некаторых элітных кватэр нават перавышаў мільён даляраў! Што ж з катком? Калі Чыж і сабраўся будаваць каток да канца 2011 года, то тэрміны, відавочна, падціскаюць. У студэнцкім гарадку, дзе мусіла ісці будоўля, за паўгода да здачы аб'екта на месцы патэнцыйнага спартыўнага комплексу зеўрае пустэча. Але прэзідэнцкі ўказ ніхто не адмяняў! Ці варта чакаць, што за невыкананне ўмоў дзяржава адбярэ ў «Трайпла», а значыцца і ў Юрыя Чыжа, комплекс «Ля Траецкага»? Вядома ж, не.

## «Тата ходзіць у хакей гуляць ці як на працу?»

Персанальныя прэзідэнцкія ўказы — не навінка для Юрыя Чыжа. Напрыклад, у 2010 годзе ён атрымаў загад пабудаваць комплекс будынкаў па абслугоўванні дэлегацый на тэрыторыі Нацыянальнага парку «Белавежская пушча». Фактычна, гэта будзе выязная рэзідэнцыя Аляксандра Лукашэнкі.

Менавіта выкананнем такіх спецдаручэнняў кіраўніка дзяржавы Чыж і зарабляў свой статус у дзяржаве. Напрыклад, будаўніцтва гарналыжнага цэнтра ў Лагойску. Вось як апісваў гісторыю стварэння комплексу сам Чыж: «Лукашэнка катаўся на лыжах у расійскай Краснай паляне і літаральна захварэў ідэяй стварэння такога цэнтра ў нас. Сказаў мне: «Юра, там мне аўстрыйцы ўвесь час мазгі дурыць наконт будаўніцтва ў Лагойску гары, з'ездзіў бы ты, паглядзеў на тыя месцы і прыкінуў, што там можна зрабіць». Я прыкінуў іх моцныя і слабыя бакі, каб чужых памылак не паўтараць, а калі саспеў канчаткова, сказаў прэзідэнту, што «Трайпл» за гэта возьмецца. Прэзідэнту мае довады здаліся пераканаўчымі, і ён даў дабро».

Юрый Чыж — пастаянны ўдзельнік «прэзідэнцкага» хакея. Наконт свайго энтузіязму ў лядовых баталіях мільянер дазволіў сабе шматзначны ўспамін: «У жонкі дачка неяк спытала: «Мама, а тата ходзіць у хакей гуляць ці як на працу?» Не памятаю, што жонка адказала, але я б на яе месцы задумаўся...»



Над Траецкім прадмесцем паўстаў адзін з самых дарагіх будынкаў Мінска.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Юрый Чыж**

Нарадзіўся ў 1963 у вёсцы Сабалі Бярозаўскага раёна Брэсцкай вобласці. Вучыўся ў Беларускім політэхнічным інстытуце (цяпер БНТУ). У 1985—1992 працаваў на МТЗ. У 1992 заснаваў кампанію «Трайпл».

Цяпер кіраўнік групы кампаній, якія займаюцца нафтаперапрацоўкай, дрэваапрацоўкай, вытворчасцю безалкагольных напояў, будаўніцтвам. Валодае футбольным клубам «Дынама» (Мінск) і шэрагам рэстаранаў. Адзін з найбагацейшых людзей Беларусі.

**Адкуль «Трайпл»**

Юрый Чыж засноўваў кампанію разам з двума братамі. Пасля доўгіх пошукаў удалага слова для назвы было вырашана звярнуцца да расійска-англійскага слоўніка. Там і знайшлі «тройку» - triple.

## Праблема ў трэнеру ці прэзідэнту?

Як спартыўны анекдот успрымаецца большасцю футбольных заўзятараў Беларусі сітуацыя з мінскім футбольным «Дынама», любімым «дзіцем» Юрыя Чыжа. Аўтарытарны стыль кіравання часам прыводзіць да канфліктаў. Са снежня 1999 года, калі мільянер узначаліў футбольны клуб, у ім змяніліся 22 галоўныя трэнеры! Усе яны не задавальнялі прэзідэнта-Чыжа, і той выганяў іх з каманды. Пры гэтым на спецыялістаў выліваўся традыцыйны набор абразаў. Дастаткова сказаць, што асноўнага суперніка мінчан, барысаўскі БАТЭ, за гэты час трэніравалі ўсяго тры чалавекі, а поспехаў клуб дасягнуў нашмат большых.

Праявіў сябе Юрый Чыж і ў іншым спартыўным інтарэсе — барацьбе. Ён з'яўляецца кіраўніком рэспубліканскай федэрацыі менавіта ў гэтым відзе спорту. Заадно яшчэ ўваходзіць у цэнтральную раду «Прэзідэнцкага спартыўнага клуба» Дзмітрыя Лукашэнкі і з'яўляецца членам Нацыянальнага Алімпійскага камітэта.

## Часовыя цяжкасці

Але бясхмарнае жыццё ў апошнія дзесяцігоддзі і прыхільнасць уладавых структур былі ў Чыжа не заўсёды. Чорнай датай для мільянера магло стаць 29 мая 2007 года. Літаральна праз некалькі гадзінаў пасля арышту тагачаснага кіраўніка «Белнафтахіма» Аляксандра Бароўскага ў выніку аперацыі спецслужбаў быў затрыманы і Юрый Чыж. Праўда, неўзабаве ён быў выпушчаны пад падпіску аб нявыездзе.

У некаторым сэнсе небяспека навісла над мільянерам і ў пачатку 2011 года. «Трайпл» называецца ў «чорным спісе» кампаній, супраць якіх Еўрасаюз быў гатовы ўвесці эканамічныя санкцыі.

**Сям'я алігарха**

Жонка і дзеці Юрыя Чыжа яшчэ менш публічныя людзі за яго. Жонка Святлана вучылася на тым самым факультэце БНТУ, што і муж, але на тры гады пазней. Апошнім часам яна была хатняй гаспадыняй. У шлюбе нарадзілася трое дзяцей — двое сыноў і дачка. Старэйшаму Сяргею ўжо 23 гады. Па непацверджаных словах жыхароў роднай вёскі Юрыя Чыжа, сын вучыцца ў Англіі. 21-гадовая дачка Таццяна знаходзіцца трохі бліжэй да бацькоў. Яна вучыцца ў Швейцарыі — у Жэневе. Малодшаму, Уладзіміру, 15 гадоў, і ён працягвае вучобу ў Беларусі.

## Даходная таблетка

З усім спісам групы кампаній, якія належаць Юрыю Чыжу, можна азнаёміцца ў спецыяльным блоку на гэтай старонцы. Шматвектарнасць яго эканамічнай экспансіі здзіўляе. Неўзабаве дадасца яшчэ адзін профіль — фармакалагічны. На заво-дзе, што будуецца ў Лагойску, будзе працаваць кампанія «Трайплфарм». Прадпрыемства будзе спецыялізавацца на вытворчасці антыбіётыкаў трэцяга і чацвёртага пакаленняў.

Цесныя адносіны з Аляксандрам Лукашэнкам дазваляюць Юрыю Чыжу атрымліваць дазвол на перспектыўных і прыбытковых накірунках. Да гонару мільянера, ён, прынамсі пакуль што, не займаецца бізнесам, звязаным з гандлем зброяй, алкаголем ці тытунёвай прадукцыяй. Вядома ж, калі не браць пад увагу вытворчасць жывога піва ў «Ракаўскім бровары» і тую самую перапрададзеную ў Расію машыну гарэлкі, з якой пачалося няўмольнае ўзыходжанне Юрыя Чыжа на вяршыні беларускага бізнэсу.

**Яўген Васількоў, Адар'я Гуштын, Мінск—Бяроза**

# Неймаверная Амерыка

## IV. У гонар пераможаных

Нататкі **Змітра Панкаўца** са Злучаных Штатаў Амерыкі.

**Праця г. Пачатак у № 10, 11, 13.**



**У Атланты не засталося гістарычнага цэнтра. Падчас Грамадзянскай вайны горад быў спалены цалкам. Цяпер Атланта — гэта дзелавы цэнтр амерыканскага Поўдня.**

### Ні пажарам, ні янкі не зламаць

У абсалютнай большасці маіх знаёмых пры ўзгадванні горада Атланта першая асацыяцыя — «Знесеныя ветрам» Маргарэт Мітчэл. Частка падзей рамана адбываецца менавіта ў сталіцы штата Джорджыя.

Лёс галоўнай гераіны Скарлет О'Хары выкладаецца на фоне трагічных падзей другой паловы XIX стагоддзя. Менавіта Атланта ў час Грамадзянскай вайны стала цэнтрам Канфедэрацыі адзінаццаці рабаўладальніцкіх штатаў Поўдня.

Для войскаў Поўначы было вельмі важна захапіць менавіта Атланту. Узяўшы горад, яны б маглі зламаць баявы дух канфедэратаў. Бітва за Атланту адбывалася на працягу ўсяго лета 1864 года.

«Спякотнымі вільготнымі летнімі начамі дзверы ўсіх дамоў у Атланце былі адчыненыя насцеж для воінаў — абаронцаў горада. Усе багатыя дамы — ад вуліцы Вашынгтона да Персікавай вуліцы — ззялі агнямі: там прымалі перапэцканых акопным брудам салдат, і ў ціхім начным паветры далёка разносіліся гукі банджо і скрыпак», — так апісвае першыя дні аблогі Атланты Маргарэт Мітчэл.

Сёння ў горадзе ёсць невялікі музей гэтай пісьменніцы. Спачатку ўражваешся гэтым прыгожым трохпавярховым домам. Потым аказваецца, што ў ім Мітчэл мела толькі два пакоі, дзе і жыла са сваім другім мужам. У такіх умовах яна і напісала свой раман. Зрэшты, Мітчэл ніколі не думала, што ён стане настолькі папулярным. Яна пісала «Знесеных ветрам» проста для сваіх знаёмых. Мітчэл загінула ў 49 гадоў пад коламі аўтамабіля.

Калі вяртацца да гістарычных падзей, то аблога Атланты скончылася паспяхова для войскаў Поўначы. 2 верасня армія генерала Уільяма Шэрмана ўвайшла ў Атланту. Праз два месяцы ім жа быў аддадзены загад спаліць горад.

«Шэрман вёў свае войскі праз Джорджыю ад Атланты да мора. Ззаду ляжалі спаленыя руіны Атланты: пакідаючы горад, сінія мундзіры аддалі яго агню», — так апісвае гэта Мітчэл.

Ці не ўпершыню тады на амерыканскім кантыненце была ўжытая тактыка «выпаленай зямлі». Цікава, што ў той самы час гэты самы метад па іншы бок Атлантыкі прымяняў віленскі генерал-губернатар Міхаіл Мураўёў. Тактыка «выпаленай зямлі» ўжывалася супраць шляхецкіх ваколіц заходняй Беларусі, дзе падтрымка паўстанцаў была найбольшай. Сем'і высылалі ў Сібір, а ваколіцы цалкам знішчаліся.

«Я сама, як Атланта. Ні пажарам, ні янкі мяне не зламаць», — такія словы ў вусны Скарлет О'Хары ўклала пісьменніца. Але сапраўды, пасля разбурэнняў вайны жыхары Атланты хутка ўзяліся за справу, аднаўляючы горад. Доўгі час менавіта Атланта была горадам, які найбольш імкліва развіваўся. Сёння гэта зноў найбольшае паселішча амерыканскага Поўдня, яго дзелавы цэнтр.

### Стоўн Маўнцін

Разам з тым, Грамадзянская вайна застаецца тэмай, якую непажадана закранаць у размовах з амерыканцамі. Занадта ўжо неадназначная гэта старонка ў гісторыі Поўдня.

Сёлета, дарэчы, будзе юбілей пачатку Грамадзянскай вайны — 150 гадоў. Але ніякіх мерапрыемстваў з гэтай нагоды амаль не плануецца. Нібыта і не было ў гісторыі такіх падзей.

У адзін з дзён перабывання ў Атланце мы накіраваліся ў парк «Стоўн Маўнцін». Гэта зусім недалёка ад горада. Яшчэ ў 1950-я тут былі прыватныя ўладанні, але ўрэшце ўсё было выкуплена штатам пад парк. Справа ў тым, што нейкім неверагодным чынам у гэтай мясцовасці з'явілася немалая гранітная гара. Ніякіх іншых гор побач няма. Дарэчы, мясцовыя называюць яе Лысай. Але гэта не палохае іх. Атлантцы з вялікім задавальненнем праводзяць там пікнікі, адпачываюць.

Асаблівы шарм гэтай гары надае высечаны на ёй барэльеф у гонар войскаў Канфедэрацыі. На ім выбітыя выявы прэзідэнта паўднёвых штатаў Джэферсана Дэвіса, а таксама генералаў Лі і Джонсана. Барэльф настолькі аграмадны, што толькі ў храпе каня мог бы змясціцца чалавек.

Дзіўная гэтая краіна Амерыка. Не магу сабе ўявіць, каб так за савецкім часам былі ўшанаваныя, скажам, слуцкія паўстанцы. Бок, які прайграў у вайне, ушанаваны па ўсіх правілах. Памяць пра яго не спрабуюць зацерці, а, наадварот, паказваюць як годнага суперніка.

Увогуле ж, Стоўн Маўнцін — гэта нешта кшталту нашых Дудутак ці славутага стакгольмскага Скансэна. Сюды звозілі



**Цыган і мядзведзь. Скульптурная экспазіцыя з «Падземнай Атланты». Гэта гандлёвы цэнтр кшталту мінскай «Сталіцы».**



**Сцяжына ў Алімпійскім парку. Кожная цагліна імянная.**



**Атланта**

Адміністрацыйны цэнтр штата Джорджыя. Найбуйнейшы горад амерыканскага Поўдня. Насельніцтва агламерацыі Атланты — 5,5 мільёна чалавек. У Атланце субтрапічны клімат са спякотным летам і дажджлівай зімой. У 1996 у Атланце праходзілі Летнія Алімпійскія гульні. У Атланце нарадзіўся баптысцкі пастар Марцін Лютэр Кінг, акцёры Джулія Робертс і Крыс Такер.

## Важная інфармацыя для тых, хто купляе «НН» у «Белсаюздруку»

«Белсаюздрук», якому належаць усе газетныя кіёскі Мінска, адмаўляецца браць у продаж больш чым 1800 экзэмпляраў «Нашай Нівы». Яны распрадаюцца цалкам. Афіцыйнае вяртанне складала ў студзені 2—3%. Гэта азначае, што ў рэальнасці купіць «Нашу Ніву» можна толькі ў сераду. Сапраўды, многія чытачы тэлефануюць, наракаюць, што газету купіць цяжка.

На нашы просьбы павысіць колькасць асобнікаў у продажы «Белсаюздрук» адказаў, што «не плануе павелічэнне тыражу». Выглядае, што абмежаванне тыражу мае палітычны характар. Газету раскупляюць пастаянныя чытачы, і яна менш трапляе на вочы новаму чытачу.

У сувязі з гэтым маем некалькі рэкамендацый:

**1.** Калі вы не здолелі купіць нумар у кіёсках «Белсаюздруку», пытайцеся газету ў найбліжэйшым аддзяленні «Белпошты» і ў прыватных распаўсюднікаў. На поштах «Нашу Ніву» таксама прадаюць.

**2.** Вельмі рэкамендуем падпісвацца. Так вы будзеце атрымліваць газету гарантавана. У той жа час і новыя чытачы будуць сутыкацца з газетай у кіёсках.

**3.** Просім кожнага з вас, хто не знаходзіць газеты ў сваім шапіку «Белсаюздруку», адразу кіраваць кароткі ліст наступнага зместу:

ГРУП «Белсаюздрук»
220050 Мінск, вул.Валадарскага, 16

Я, (імя, імя па бацьку, прозвішча), які пражывае па адрасе ..., не знаходжу ў продажы газеты «Наша Ніва» ў кіёску №..., дзе я прывык яе купляць. Прашу павялічыць колькасць экзэмпляраў гэтай патрэбнай мне газеты, якія паступаюць у гэты кіёск.

З павагай,

...

будынкі, прылады працы, музычныя інструменты і іншыя прадметы з розных куткоў амерыканскага Поўдня. Вось і ўтвараецца такая дзяржава ў мініяцюры.

Ёсць тут нават свая плантацыя. З домам гаспадара, лекара, рабоў, фермай. А яшчэ тут паўсюль растуць магноліі.

### «У мяне ёсць мара»

Сённяшняя Атланта ў значнай частцы — горад з цемнаскурым насельніцтвам. Калі ў цэнтры прапорцыі паміж белымі і чорнымі яшчэ больш-менш вытрыманыя, то бліжэй да ўскраін яны парушаюцца на карысць апошніх.

Напрыклад, у нью-ёркскім метро нам настойліва не рэкамендавалі глядзець неграм у вочы, каб не адбыўся які інцыдэнт. А ў Атланце цемнаскурыя абсалютна разняволеныя і не агрэсіўныя. У паўднёвых штатах яны адчуваюць сябе надзвычай камфортна. Хоць здавалася б, за іх правы змагаліся якраз на Поўначы.

Менавіта з Атланты некалі і пачаўся рух чорных за раўнапраўе, барацьба з расізмам і сегрэгацыяй. У іх быў свой яскравы харызматычны лідар — Марцін Лютэр Кінг.

Гэты, напэўна, самы вядомы ў свеце баптысцкі прапаведнік якраз з Атланты. Ён вырас у квартале для багатых чорных. Тут жылі ў асноўным лекары, выкладчыкі ўніверсітэтаў, святары. Хата Кінга побач з царквой, дзе ён і служыў. Тут яго і пахавалі. Магіла знаходзіцца на пастаменце ў невялічкім вадаёме з блакітнай вадой. Разам з ім пахаваная жонка.

Лютэр Кінг быў прыхільнікам негвалтоўнай барацьбы за правы чорных, ён



Месца пахавання Марціна Лютэра Кінга.

заклікаў да акцый непадпарадкавання. Гэты чалавек узначальваў памяркоўнае крыло ў змаганні за правы афраамерыканцаў. Зусім іншыя метады прапаноўваў Малкалм Ікс, які марыў пра рэкі крыві белых людзей на амерыканскіх вуліцах. Да прыхільнікаў Ікса належаў сусветна вядомы баксёр Мухамед Алі.

Метады Кінга былі блізкія да метадаў Гандзі. У 1963 годзе ў Вашынгтоне з прыступак мемарыяла Лінкальна Марцін Лютэр Кінг чытаў сваю славутую прамову «У мяне ёсць мара». Яе слухала 300 тысяч амерыканцаў. У прамове Кінг заклікаў спыніць расавае супрацьстаянне.

Кінга забілі ў 1968 годзе, калі ён стаяў на балконе гатэля ў Мемфісе. Ягоны забойца быў асуджаны на 99 гадоў турмы. Ён запэўніваў, што дзейнічаў адзін, хоць многія бачаць у гэтым змову. Трэці панядзелак студзеня ў ЗША лічыцца днём Марціна Лютэра Кінга і адзначаецца як дзяржаўнае свята.

### Радзіма кока-колы

Калі казаць персанальна пра мяне, то пра існаванне горада Атланта я даведаўся ў 1996 годзе. Тады там якраз праходзілі Алімпійскія гульні. Папярэдне быў нават аб'яўлены конкурс, паводле якога трэба было сабраць пяць коркаў з алімпійскімі колцамі ад кока-колы і даслаць арганізатарам. Я так і зрабіў, але нічога не выйграў. Нават пыласос, не кажучы ўжо пра саму паездку.

Калі праз пятнаццаць гадоў пасля тых падзей трапіў у Атланту, то прамінуць магчымасць прагуляцца па Алімпійскім парку не мог. Тут ёсць помнік заснавальніку сучаснага алімпійскага руху П'еру дэ Кубертэну, моладзь гуляе на траве ў фрысбі, а малыя бегаюць у струменях фантана. Праз парк праходзіць замошчаная цэглай дарожка. На кожнай цагліне — нейкае імя ці назва арганізацыі. Аказваецца, гэта імёны ўсіх жадаючых, хто заплаціў за такую паслугу і забраніраваў месца. Сустракаў там і славянскія прозвішчы, напрыклад, Сасноўскі.

Дарэчы, якраз Атланта з'яўляецца радзімай кока-колы. Пра гэта вам з ахвотай раскажуць у музеі, прысвечаным гэтаму напою. Вынаходнікам кока-колы быў ветэран Грамадзянскай вайны Джон Пембертан (ясная справа, змагаўся за канфедэратаў). У баях ён атрымаў цяжкую траўму, пасля чаго палюбіў морфій. Аднак Пембертан разумеў, што ад такой залежнасці трэба пазбаўляцца. Зрэшты, ён не прыдумаў нічога лепшага, як змешваць коку з рознымі вінамі.

Потым Джону давялося прыбраць віно са свайго вынаходніцтва, бо ў Штатах абвясцілі сухі закон. Прыкладна так кока-кола і была прыдуманая. Пембертан памёр праз два гады пасля свайго адкрыцця, а мы п'ём яе па сённяшні дзень.

Цікавая асаблівасць амерыканцаў — вада ці кола, па вызначэнні, з лёдам. Хочаш без яго — трэба адразу папярэджваць. У Атланце ёсць і свае кулінарныя асаблівасці. У горадзе варта пакаштаваць нешта з луізіянскай кухні. Там абавязкова мусіць быць сельдэрэй, зялёны перац і цыбуля. Ну а з гэтай «святой тройцай» усё астатняе — мяса, рыба, крэветкі.



У Атланце месціцца адзін з найбольшых акварыумаў у свеце. Малыя ды і дарослыя ходзяць там з адкрытым ротам.



Вялікая колькасць аўтамабіляў і загазаванасць — праблемы сучаснай Атланты.



У Амерыцы шануюць не толькі пераможцаў, але і пераможаных. Барэльеф у гонар войскаў Канфедэрацыі ў парку «Стоўн-Маўнцін».

### Дарогі і музыка Поўдня

У Атланце разумееш, што ты на Поўдні, з усімі яго выцякаючымі. У параўнанні з утульным Вашынгтонам Атланта менш дагледжаная і зялёная. На вуліцах стаяць драўляныя электрычныя слупы, чаго амаль ужо няма нават у Беларусі.

Дарогі таксама пакідаюць жадаць лепшага: то тут яма, то там калдобіна. Аўтамабілі — гэта ўвогуле аграмадны галаўны боль атлантцаў. Заторы тут — будзённая справа. Гэта пры тым, што з горада і ў горад вядуць шырачэзныя аўтамагістралі. Здавалася б, новыя палосы для руху дазволяць праязджаць дыстанцыю хутчэй. На справе ж выходзіць, што дадатковыя палосы прыводзяць да звужэння панятка прыгарада, адкуль людзі могуць ездзіць у Атланту на працу. Павялічваюцца дарогі — павялічваецца і колькасць ахвотных па ёй ездзіць. Тутэйшыя смяюцца, што праблему можа вырашыць хіба радыкальнае павышэнне цэнаў на паліва.

У Атланце давялося пабываць на тэлеканале CNN. Аграмадная карпарацыя, дзе ніхто не стаіць на месцы, усё ў пастаянным руху. Супрацоўнік Пітэр Вайд расказваў пра спецыфіку працы на CNN. Кажа, што працуе да позняга вечара, у выхадныя таксама прыходзіць на працу. Ніхто дадаткова за гэта яму не даплачвае. Проста баіцца пакінуць сваю працу на некага іншага, хто можа выканаць яе менш якасна.

У кадрах тэлеканала ў той час мільгалі падзеі ў Лівіі, землятрус у Новай Зеландыі, забойства амерыканцаў у Самалі. Мяне ж не адпускала думка пра адсутнасць чалавека ў цяперашніх тэлевізійных навінах. Тут ёсць рэвалюцыі, стыхійныя бедствы, маньякі, спорт. Але няма чалавека, на якога хочацца быць падобным.

Урэшце рэшт, не трэба забывацца, што Джорджыя, як і іншыя паўднёвыя штаты ЗША, славіцца сваёй музыкай. Тут нарадзіўся славуты сляпы блюзмен Рэй Чарльз. Менавіта ён і напісаў гімн гэтага штата Georgia On My Mind.

**Атланта — Мінск**

Працяг будзе.

# Вольга Іпатава: «Ён забраў у нацыі яе Час»

Пісьменніца ўзрушаная падзеямі ў краіне, але пэўная, што расплата спасцігне вінаватых.

**«НН»: Вы цяпер у Канадзе. Гэта эміграцыя ці часовы ад’езд?**

**Вольга Іпатава:** Я не збіраюся нікуды эміграваць, проста цяпер гасцюю ў гэтай краіне і радуюся, што маю такую магчымасць. І ўсё ж Беларусь — тая краіна, дзе мая душа адчувае найбольшы ўзлёт. Ніштo не можа параўнацца з «хатнімі пілігрымкамі», калі я еду да якой-небудзь беларускай святыні — Мірскага замка, Жыровіцкага манастыра, Полацкай Сафіі — і праводжу ўвесь дзень сам-насам з Гісторыяй.

Апошняй па часе была мая вандроўка да манастыра, які засноўвала Еўфрасіння Полацкая. Маленькая, на той час амаль пустая царкаўка з адзінокай манашкай ля ўваходу дала мне магчымасць напоўніцу адчуць энергетычную моц гэтай святой для многіх пакаленняў мясціны. Такога пачуцця мне не дала нават Канстанцінопальская Сафія, дзе я таксама правяла некалі цэлы дзень...



Вольга Іпатава выносіць партрэт Цёткі ў часе высялення Саюза пісьменнікаў з Дома літаратара.

Юлія Дарашкевіч

**«НН»: Вы ўжо ведаеце пра «чорны» спіс айчынных і замежных дзеячаў культуры, у які трапілі і Вы. На Вас гэта неяк паўплывае?**

**ВІ:** Я ў такім спісе яшчэ з 2003 года, калі ва ўстановы культуры — клубы, бібліятэкі і школы — быў пасланы ліст міністра інфармацыі з забаронай на выступленні шэрагу беларускіх пісьменнікаў. У гэтым жа лісце было і патрабаванне выкінуць са школьных праграм творы Н.Арсеньевай і Л.Геніюш, а таксама і сучасных літаратараў. Пад забарону, дарэчы, трапілі мая аповесць «Прадслава» пра Еўфрасіннію Полацкую і раман «За морам Хвалынскім».

У новым «чорным» спісе калі і ёсць што пазітыўнае, дык гэта ананімнасць і поўнае глупства стваральнікаў. Забарона на друкаванне? Думаю, Андрэю Бітаву ці Тому Стопарду не карціць надрукавацца ў «Советской Белоруссіі». Наколькі я ведаю, не носяць туды артыкулы ні Сяргей Законнікаў, ні Анатоль Вярцінскі, ні Генадзь Бураўкін. Ніхто з названых аўтараў не друкуецца таксама ў нашых былых выданнях, гвалтоўна забраных у Саюза беларускіх пісьменнікаў — такіх, як «ЛІМ», «Полымя», «Нёман», — і гэта іх свабодны выбар, бо некаторыя ціхія прапановы з тых выданняў былі.

Дарэчы, творчых людзей, якія выступілі з асуджэннем рэпрэсій пасля падзей 19 снежня, было нашмат болей, чым у гэтым спісе. Ці то служкі рэжыму (не хацелася б ужываць гэтакія штампы, але яны сапраўды ўсяго толькі прыслужнікі, а не асобы) паленаваліся падлічваць усіх, ці то наўмысна выбралі толькі некаторых, каб паказаць, што ўсе

> У Расіі ніколі не шкадавалі сваіх жа людзей — дык чаму яны будуць шкадаваць іншы народ?

> Давыдзька ніколі не зробіць тэлебачанне беларускім.

астатнія дзвюма рукамі галасуюць за катаванні ў турмах, за кроў і пакуты сумленных людзей, за ўвесь гэты гвалт, што пракаціўся па цэлым свеце.

Безумоўна, я магла б за гэты час зрабіць для Беларусі нашмат болей, чым я зрабіла, як і іншыя мае калегі. Ядавітая нянавісць да нацыянальнага, што ўсе пятнаццаць гадоў культывавала сённяшняя ўлада, робіць сваю чорную справу. Школьнікаў абалваньваюць трашчанкоўскай гісторыяй.

**«НН»: У 2005 годзе Вы падтрымалі палітыка Аляксандра Казуліна. На выбарах 2010 года каму аддалі перавагу?**

**ВІ:** Я ўспрымаю такіх людзей, як А.Казулін, М.Статкевіч, А.Лябедзька, П.Севярынец і многіх іншых найперш не як палітыкаў, а як асобаў.

Некаторыя з іх у свой час ішлі па іншых, не дэмакратычных шляхах, але, калі можна так сказаць, «выкупілі» свае памылкі дарагой цаной. Я ніколі не забуду твар Аляксандра Казуліна над труной жонкі Ірыны ў Чырвоным касцёле... Або збітага Анатоля Лябедзьку, якога валаклі бугаі ў чорным...

За гэтыя гады нашы палітыкі паказалі прыклад вялікай грамадзянскай і чалавечай мужнасці, і такіх людзей робіцца ўсё болей. Іх нямала — тых, хто застанецца калі не ў беларускай палітычнай гісторыі, дык у літаратуры і мастацтве, у чым я цвёрда ўпэўненая.

Аляксандр Фядута, які на турэмных нарах знаходзіў для блізкіх пяшчотныя і ласкавыя словы... Мікалай Аўтуховіч, які прыслаў мне з няволі своеасаблівую рэцэнзію на маю кнігу «Свабода да апошняга дыхання» і які, нягледзячы на рэальную пагрозу яго жыццю, перадае на волю праўду пра ўмовы ўтрымання вязняў...

Наста Палажанка і ейныя сябры з «Маладога фронту»; родзічы А.Саннікава і І.Халіп і сама гэтая мужная сямейная пара — усіх не пералічыш, але яны ствараюць духоўную прастору сённяшняй Беларусі. Такіх людзей усё болей. Сярод маладых палітыкаў я бачу будучых лідараў, якія выцягнуць нашу краіну з бездані.

**«НН»: У 1973 годзе ў знак пратэсту супраць русіфікацыі вы адмовіліся ад граматы ЦК ВЛКСМ за поспехі ў літаратуры. Столькі гадоў прайшло, а нічога кардынальна не мяняецца. Такая безвыходнасць не змушае апусціць рукі?**

**ВІ:** На шчасце, рэальнасць мяняецца. Тады гэтая адмова магла каштаваць мне поўнай забароны на друк як у Беларусі, так і ў Маскве (а нідзе больш я не магла друкавацца). Мяне моцна падтрымалі як гродзенскія пісьменнікі (В.Быкаў, А.Карпюк, Д.Бічэль), так і Мінск. Я ведаю, што і Я.Брыль, і І.Шамякін персанальна ўгаворвалі высокіх чыноўнікаў забыцца на гэтае «маладое глупства».

Сёння забарона не можа перакрэсліць мне ані будучае, ані маё сённяшняе жыццё. Я поўная аптымізму і веру, што ў будучай свабоднай Беларусі хаця нешта з маёй творчасці будзе служыць народу. Усё, ува што ўкладзеная любоў, застаецца. Энерга-інфармацыйнае поле Зямлі, якое геніяльны Вернадскі назваў «наасферай», а старажытная індуская філасофія ведала як «Акашы», безумоўна існуе.

**«НН»: Вы працавалі на тэлебачанні, калі родная мова была асноўнай у яго працы. Але ж у грамадстве і тады ад беларускай аднекваліся як ад мовы «дзярэўні». Сітуацыю сёння магло б змяніць беларускамоўнае тэлебачанне, на якім беларусізацыю паабяцаў Генадзь Давыдзька?**

**ВІ:** На маю думку, родная мова запануе ў краіне тады, калі зменіцца гэтая ўлада. Усе гэтыя гады яна літаральна «прадавала» беларускасць у абмен на газ. Нават антырасійская рыторыка выкарыстоўвалася для таго, каб падкрэсліць, што «беларусы — гэта тыя ж рускія, толькі са знакам якасці». Тыя вялікія грошы, якімі Расія падтрымлівала беларускі рэжым, — нішто ў параўнанні з выгодамі ад гэтага кавалка тэрыторыі, які волей гісторыі стаў мостам між Усходам і Захадам. Я вырасла, як і ўся наша інтэлігенцыя, пераважна на расійскай культуры, бо беларускіх школ у гарадах не было, і цяпер бачу, як няпроста прабіваюцца там парасткі свабоды і дэмакратыі. Не дзіва:

> Школьнікаў абалваньваюць трашчанкоўскай гісторыяй.

прыгоннае права там (і ў нашай краіне, адпаведна) было адменена толькі ў 1861 годзе. Але ў Беларусі і ў той час існавала памяць пра дэмакратычныя правы, пра Магдэбургскае права і выбарнасць гарадскіх радцаў. У Расіі дэмакратыі не было ніколі, хіба што ў вольным Ноўгарадзе, які быў урэшце заліты крывёю і пастаўлены на калені яшчэ ў XV стагоддзі. І я баюся гэтага далучэння па многіх прычынах, апроч толькі патрыятызму і жадання бачыць сваю краіну незалежнай...

У Расіі ніколі не шкадавалі сваіх жа людзей — дык чаму яны будуць шкадаваць іншы народ? Ці ўсе мы памятаем, што радыеактыўнае воблака, якое рухалася на Маскву, было расстралянае над Беларуссю?

Генадзь Давыдзька ніколі не зробіць тэлебачанне беларускім. Ягоны гаспадар са Шклоўшчыны, на жаль, вырас у адчуванні таго, што беларускасць — гэта «дзярэўня», і гэтае адчуванне прабіваецца ў кожным ягоным сказе пра нацыянальную культуру і мову. Для такой працы патрэбны чалавек кшталту Г.Бураўкіна, якому гэта балела і які глядзеў на праблему праз прызму стагоддзяў і трагедыі народа, заціснутага паміж дзвюма вялікімі дзяржавамі.

Мне хочацца верыць, што наша моладзь, як маладая трава скрозь папялішча, праб’ецца праз дзяржаўнае ачмурэнне і пераломіць сітуацыю.

**«НН»: Вашы кнігі даўно не выходзяць у дзяржвыдавецтвах? Пішаце ў стол?**

**ВІ:** Апошняя мая па часе кніга «Знак вялікага магістра» выйшла ў 2009 годзе. Я прымяркоўвала яе да вялікай падзеі — 600-годдзя Грунвальдскай бітвы, якая не дала анямечыцца, знікнуць як народам беларусам, палякам і літоўцам. Недзе сярод апытанняў на лепшую кнігу года яна мільганула, і гэта ўся — як матэрыяльная, так і маральная — узнагарода для аўтара, калі ты не хочаш быць прыдворным пеюном, а маеш сваю ўласную думку.

Папярэдняй кнізе «Свабода да апошняга дыхання» пашанцавала болей: яна была выдадзеная большым тыражом, яе раскупілі імгненна, і я

> Можна, маючы два дыпломы, быць абсалютным невукам.

атрымала шмат водгукаў ад чытачоў, у тым ліку, як пісала раней, нават ад палітычна зняволеных.

І ўсё ж я не крыўдую на лёс. Я разумею, што зараз проста няма дзе друкаваць рэцэнзіі. Амаль няма літаратурных выданняў, няма месца для дэмакратычнай прэсы. С.Букчын на сайце «Беларускага партызана» змясціў бліскучы водгук на кнігу У.Някляева — дык гэта шчаслівае выключэнне, да таго ж наш калега ў гэты час, пакалечаны і зняважаны, знаходзіўся у турме, і кожны чалавек з нармальным сэрцам і сумленнем перажываў за яго. Таму гэтая рэцэнзія была, на маё разуменне, і свайго роду рэакцыяй на тое, што адбывалася ў гэты час у краіне.

**«НН»: Аляксандр Лукашэнка з пэўнай перыядычнасцю крытыкуе літаратараў, маўляў, няма вартых твораў. Але ж справа не толькі ў тым, што пісьменнікі падзелены на два саюзы, і ў адным таленавітыя аўтары, а ў другім — не. Чаму пісьменнікі ні з СБП, ні з СПБ не могуць напісаць кнігу, якую б аднолькава высока ацанілі ўсе?**

**ВІ:** Тое, што А.Лукашэнка гаворыць пра літаратуру, у прыватнасці, пра беларускую, не трэба браць пад увагу. Ён бліскучы прыклад таго, як можна, маючы два дыпломы, быць абсалютным невукам як у гісторыі, так і ў мастацтве.

Не хачу падстаўляць «Нашу Ніву» пад санкцыі пра абразу прэзідэнта. Скажу толькі: ён забраў у нацыі яе Час. І я вельмі спадзяюся, што некалі ён усё-ткі адкажа за гэта, як і за многае іншае.

**Гутарыў Сяргей Макарэвіч**

# Страшная аварыя пад Вялікдзень

### Сем чалавек загінулі ў сутыкненні аўтобуса з мікрааўтобусам у Маларыцкім раёне пад Брэстам.



Аварыя адбылася 23 красавіка ў 13.20 на скрыжаванні аўтадарог Кобрын — Маларыта і Берасце — Макраны.

Вадзіцель мікрааўтобуса «Фальксваген-Каравела», мінчук 1975 года нараджэння, падчас руху па другараднай дарозе праігнараваў знак «Рух без прыпынку забаронены», выехаў на скрыжаванне і сутыкнуўся з украінскім рэйсавым аўтобусам «Ікарус», які рухаўся па маршруце Ковель — Брэст.

«Ад удару рэйсавы аўтобус развярнула, ён з'ехаў у кювет і перакуліўся на дах. «Фальксваген-Каравела»праехаў наперад прыкладна пяць метраў і спыніўся на сваёй паласе руху», — расказала прадстаўнік ДАІ.

У выніку аварыі на месцы загінулі вадзіцель «Фальксвагена» і пяць з дзевяці пасажыраў. У тым ліку трое дзяцей — хлопчыкі двух і чатырох гадоў і трохгадовая дзяўчынка. Загінулі і двое дарослых — 60-гадовы мужчына і 59-гадовая жанчына.

З траўмамі ў Брэсцкую бальніцу трапілі чатыры пасажыры «Фальксвагена». Сярод іх — дзяўчынка, дзве жанчыны, а таксама мужчына.

У «Ікарусе» ехала сем пасажыраў. Адна з іх, жыхарка Брэста, загінула на месцы аварыі.

Вадзіцель аўтобуса і тры пасажыры шпіталізаваны з траўмамі. Астатнія тры пасажыры рэйсавага аўтобуса не пацярпелі.

Распачата крымінальная справа на падставе ч. 3 арт. 317 КК (парушэнне правілаў дарожнага руху). Толькі людзей гэта ўжо не верне.

**БелаПАН; СГ**



**Набожныя віцяблянкі такія набожныя... Але галоўнае, што не ў штанах і хустка на галаве ёсць.**

СЯРГЕЙ СЕРАБРО

# Якубовіча не выбралі ў выканкам Футбольнай федэрацыі

### Яго кандыдатуру прапаноўваў новы кіраўнік Федэрацыі віцэ-прэм'ер Сяргей Румас.

Галасаванне было рэйтынгавае, больш за ўсіх галасоў набраў рулявы БАТЭ Віктар Ганчарэнка.

Старшыня Мінскай федэрацыі футбола Міхаіл Вяргеенка і галоўны рэдактар газеты «Беларусь сегодня» Павел Якубовіч не былі абраныя ў выканкам Беларускай федэрацыі футбола, набраўшы 35 і 34 галасы адпаведна.

Затое прайшлі ў кіраўнічы орган галоўны трэнер брэсцкага «Дынама» Юры Пунтус — 77 галасоў і гаспадар мінскага «Дынама» Юры Чыж — 74. Апроч іх, у выканкам таксама ўвайшлі: Вяргейчык, Волкава, Глаз, Гусараў, Казбанаў, Кернажыцкі, Куніца, Курбыка, Марозаў, Надтачаеў, Азярэц, Пігулеўскі, Падкавыраў, Румбуціс, Сафар'ян, Сяднёў, Сычоў, Трацюк і Чыкун.

Галоўнай справай чарговай справаздачна-выбарнай канферэнцыі Беларускай федэрацыі футбола былі выбары новага старшыні. Сход прайшоў у Мінску ў Доме футбола.

Асаблівай інтрыгі тут не было. Адзіным кандыдатам на гэтае крэсла быў віцэ-прэм'ер Сяргей Румас. Былы старшыня (і былы кіраўнік Адміністрацыі Лукашэнкі) Генадзь Нявыглас вырашыў пакінуць пасаду. Як сам растлумачыў, адной з прычын сталася ягонае вяртанне ў спіс неўязных у краіны Еўрасаюза.

У выніку Румас быў абраны адзінагалосна. За яго прагаласаваў 81 дэлегат.

Румас стаў чацвёртым старшынёй БФФ. І трэцім з адміністрацыйным рэсурсам.

Толькі першым старшынёй быў прафесіянал Яўген Шунтаў. Пасля яго змянілі старшыня дзяржаўнага камітэта авіяцыі Рыгор Фёдараў і кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта Генадзь Нявыглас.

Сяргею Румасу 41 год, ён з сям'і фінансістаў. Доўгі час працаваў у банкаўскай сферы. Узначальваў «Белаграпрамбанк». У снежні быў прызначаны на пасаду віцэ-прэм'ера.

Адзін з прадстаўнікоў рыначнага крыла ва ўрадзе.

Павел Якубовіч раней не ўваходзіў у выканкам. Яго кандыдатуру вылучыў новы старшыня федэрацыі, каб было прадстаўніцтва СМІ. Тым не менш, футбольная грамадскасць выбрала людзей, праверaных у сваіх колах.

**Зміцер Панкавец**



PHOTO.BYMEDIA.NET

# Трывога не сціхае

У мінскім падземным пераходзепа праспекце Машэрава каля рэстарана «Белая вежа» людзі заўважылі пакінутую сумку і выклікалі міліцыю, распавялі «Нашай Ніве» чытачы з месца здарэння. Паводле словаў прадавачкі з суседняга кіёска, сумка магла належаць бабулі-гандлярцы, якая звычайна ў тым пераходзе стаіць. Месца ачапілі, сапёр у спецкасцюме праверыў торбу. Нічога небяспечнага выяўлена не было.

**СМ**

## Сцісла

- **У Лёзненскім раёне на міне падарваліся чацвёра дзетак.** Бяда здарылася 22 красавіка ў вёсцы Пнева. Адно дзіця загінула, трое паранены. Мінамётная міна ляжала ў зямлі з часоў вайны.
- **Сталічная сямейная пара за два гады выцягнула ў знаёмых мільярд рублёў.** Прычына для пазыкі была адна: будаўніцтва дома. Прычым пазычальнікі абавязаліся вярнуць грошы ў тэрмін, аднак у сувязі з «цяжкасцямі» не змаглі стрымаць слова... Затрыманы кіраўнік прадпрымальнага сямейства, жонка абвешчаная ў вышук.
- **«Зелле» з ацэтону выбухнула на пліце.** У Мінску хлопец атрымаў сур'ёзныя апёкі ў выніку ўспышкі ацэтону, які ён разаграваў на газавай пліце ў сваёй кватэры. Як сцвярджаюць дактары, ён пакутуе на наркатычную залежнасць і, хутчэй за ўсё, гатаваў з ацэтону чарговую порцыю «зелля».
- **Дзед паліў траву і згарэў.** 80-гадовы стары з вёскі Рыцькавічы Лагойскага раёна загінуў, спальваючы сухую траву. Агонь успыхнуў, а стары цяжка хадзіў і не паспеў адысціся.
- **Дарадца пры ЮНЕСКА спрабаваў захапіць пасажырскі самалёт** авіякампаніі Alitalia, які ляцеў з Парыжа ў Рым. На борце лайнера знаходзіўся 131 пасажыр, ніхто з іх не пацярпеў. Тэрарыстам-няўдачнікам выявіўся дыпламат з ЮНЕСКА Валер Талмачоў, грамадзянін Казахстана. Узброены злачынца запатрабаваў, каб лайнер адправіўся ў лівійскую сталіцу Трыпалі. Чатыры бортправаднікі здолелі нейтралізаваць яго. Што штурхнула яго на злачынства, пакуль невядома. Паводле словаў відавочцаў, «ён быў вельмі ўзбуджаны, але не п'яны».

**СМ**

# ЦУМ абрабавалі, каб заслужыць аўтарытэт у крымінальным свеце

### Сталі вядомыя падрабязнасці дзёрзкага злачынства.

У ноч з 2 на 3 красавіка са сталічнага ЦУМа выцягнулі вялікую партыю дарагога тавару — крадзяжу такога памеру ў гісторыі адной з найстарэйшых крамаў горада яшчэ не было. Злодзея вылічылі па гарачых слядах. Матывацыя яго ўчынку здзівіла нават мацёрых аператыўнікаў.

Як высветліла следства, грамадзянін Б. — 26-гадовы беспрацоўны жыхар Маладзечна — скарыстаўся тым, што ў будынку крамы ідзе рамонт, і схаваўся ў зацішным кутку.

Уначы ён спакойна прайшоўся па паверхах, збіраючы раней выбраныя тавары, — дарагую оптыку, фотаапараты, ювелірныя вырабы, пакінутыя ў касах грошы. Аднак калі ён паспрабаваў адкрыць адну з вітрын, спрацавала сігналізацыя.

Нарад міліцыі нічога падазронага не ўбачыў. Міліцыянты вырашылі, што адбыўся збой сігналізацыі. Зламыснік працягнуў рэйд па прылаўках, а пасля выбраўся праз акно першага паверха, сігналізацыя на якім была дэмантаваная праз рамонт.

Прыехаўшы ў свой родны горад, зламыснік перадаў тэхніку на рэалізацыю знаёмаму ахоўніку з начнога клуба, нейкаму Д. Таксама прыяцелі зрабілі некалькі тайнікоў, у якіх схавалі ювелірныя вырабы.

Зламысніка знайшлі вельмі проста: «пальцы» з месца здарэння супалі з тымі, што захоўваліся ў міліцэйскай картатэцы — маладзечанец раней быў судзімы за рабаўніцтва і крадзеж. Калі аператыўнікі прыйшлі па падазраванага, ён прызнаўся ў крадзяжы. Момантам жа найвышэйшай асалоды для яго быў візіт журналістаў-тэлевізійнікаў.

Следчы пытаўся ў падазраванага перад арыштам: навошта ўчыніў злачынства? Той выставіў сябе ну проста Робін Гудам: «Дзяржава «кідае» людзей, вось я і вырашыў яе пакараць».

Падчас допыту грамадзянін Б. расказаў следчаму: «Я ўчыніў гэты крадзеж, каб падняць свой аўтарытэт сярод крымінальных асобаў. Гэта ж крута: абрабаваць ЦУМ; такога ў Мінску яшчэ не было! Таму і «пальцы» пакінуў, каб знайшлі мяне!»

Сума матэрыяльнай шкоды ЦУМу —700 мільёнаў рублёў.

Практычна ўся яна кампенсаваная, бо зламыснік не паспеў рэалізаваць скрадзенае.

**«Беларускія навіны»**

# У Славакіі гуляем з франкамоўнымі

Ад 29 красавіка да 15 мая ў Славакіі пройдзе 75-ы чэмпіянат свету па хакеі. Славакія ўпершыню самастойна прымае першынства. Хаця двойчы (1959, 1992) спаборніцтвы праходзілі ў Братыславе ў часы існавання Чэхаславакіі.

Беларуская зборная за апошні год апусцілася ў рэйтынгу з дзявятай пазіцыі на дзясятую. Гэта адкінула яе ў групу В. Цікава, што разам з намі ў кампанію трапілі краіны, дзе французская мова мае статус дзяржаўнай, — Канада, Швейцарыя і Францыя.

Канадцы на мінулым чэмпіянаце выступілі не дужа ўдала, таму прагнуць рэваншу. Па швейцарцах беларусы заўсёды мерылі сваё хакейнае майстэрства. Гэта зборныя прыкладна аднаго ўзроўню. А вось Францыю трэба перамагаць.

Для таго, каб выйсці з групы, дастаткова не заняць у ёй апошняе месца. Гэта дазволіць трапіць у так званы кваліфікацыйны раўнд, дзе супернікамі будуць тры найлепшыя каманды з групы С. Там гуляюць Швецыя, ЗША, Нарвегія і Аўстрыя.

Свае матчы беларусы правядуць не ў сталіцы, а ў горадзе Кошыцы на мясцовай «Стыл-Арэне». Яна змяшчае 8340 гледачоў. Для прыкладу, у нашай «Мінск-Арэне» ўмяшчальнасць больш за 15 тысяч. Брацілаўская «Самсунг-Арэна» таксама невялікая — 10 тысяч.

Кіраваць зборнай у Славакіі будзе 42-гадовы Эдуард Занкавец. За апошні год ён моцна вырас як трэнер. Цяпер ён ужо не разглядаецца як проста тэхнічная замена канадскіх спецыялістаў.

На мінулым чэмпіянаце ў Германіі беларусы былі толькі дзясятымі. Сёлета ад іх чакаюць нашмат лепшага выніку.

З чатырох НХЛ-аўцаў да зборнай даехаў толькі Міхаіл Грабоўскі. Браты Касціцыны і Руслан Салей змагаюцца за Кубак Стэнлі. Гэты прэстыжны трафей яшчэ не выйграваў ніводзін беларус.

На чэмпіянаце зборная Чэхіі паспрабуе захаваць тытул чэмпіёнаў, але зрабіць гэта будзе нялёгка. Расія, Канада, Швецыя, Фінляндыя таксама настроеныя на перамогу.

**Зміцер Панкавец**

**Расклад матчаў зборнай Беларусі**

29 красавіка (пятніца). Беларусь — Канада. Пачатак у 21:15.

1 мая (нядзеля). Швейцарыя — Беларусь. Пачатак у 21:15.

3 мая (аўторак). Францыя — Беларусь. Пачатак у 21:15.

Для тых, хто не зможа падтрымаць зборную ў Славакіі, будуць простыя трансляцыі на тэлеканале «Лад».



**Воўк Гулы — талісман сёлетняга чэмпіянату.**

## КАНЦЭРТЫ

### Трыб'ют «Ляпісаў»

**7 мая а 16-й у R-Club (вул. Сурганава, 26)** — трыб'ют гурту «Ляпіс Трубяцкой». Бяруць удзел Re1ikt, «Не прислоняться the band», In Vino, Amaroka, Mushroom Band.




### B:N:

**28 красавіка ў «Рэактары» (вул.Харужай, 29)** выступіць бярозаўскі гурт B:N: — пераможца «Басовішча». Пры ўдзеле гурта СПРАТ. **Пачатак а 19-й.**

### Hard Life/Heavy Music

**13 мая ў «Рэактары»** — метал-шоу Hard Life/Heavy Music. **А 17-й — уваход, у 17.30 — пачатак.** Бяруць удзел Znich, Nightside Glance, Imprudence, Soulsides, Partyzone, Thelema.

### Animal ДжаZ

**4 траўня а 18-й** у «Рэактары» — Animal ДжаZ.

### Легенды блюза

**28 красавіка а 19-й у «Мулен Руж» (вул. Кальварыйская, 1)** — Svet. Бяруць удзел White Night Blues, Павал Аракелян і The Outsiders, Ігар Варашкевіч, Арцемі Крычэўскі, Дзяніс Балаханаў, Віталь Шышпаронак, Арцём Гаўрушын.

### Трыб'ют Metallica

**30 красавіка а 18-й у «Рэактары»** — Трыб'ют Metallica. Бяруць удзел AILLION, Magneti[k]a, The Elegy, Borealis, Deadmarsh, Lesley Knife.

### Канцэрт памяці Боба Марлі

**11 мая а 19-й у «Мулен Руж»** — канцэрт памяці Боба Марлі. Бяруць удзел «Адыс Абеба», Botanic Project.

## ІМПРЭЗЫ

### Дударскі фэст-2011

**12 мая — канцэрт у Палацы ветэранаў (вул. Купалы, 21):** Essa (Беларусь), Стары Ольса (Беларусь), Litvintroll (Беларусь). **Пачатак у 19.00.**

**13 мая** — сольны канцэрт Hedningarna (Швецыя) у Палацы ветэранаў. **Пачатак у 19.00.**

**15 мая** — канцэрт у клубе «Рэактар»: Fidelius (Германія), Стары Ольса (Беларусь), Litvintroll (Беларусь), Кашлаты Box (Беларусь), Testamentum terrae (Беларусь). Спецыяльны госць — Open Folk (Польшча). Конкурс імправізацый з DJ Паўлам Балцэвічам. **Пачатак у 18.00.**

### Мікола Ермаловіч

**Вечарына, прысвечаная памяці Міколы Ермаловіча, пройдзе 29 красавіка а 18-й на сядзібе БНФ (Машэрава, 8).** Запрашаем усіх, каму дарагое імя гісторыка, патрыёта Беларусі.

### Танцы

**Шточацвер ад 19-й да 23-й у кавярні «Жар-птушка»** адбываюцца беларускія танцавальныя вечарынкі. Вучаць ойру, падэспан, полькі, і не толькі. Кавярня месціцца ў парку Горкага. Уваход каштуе 8 тысяч рублёў з носа.

### Прэзентацыя Камуніката

**28 і 29 красавіка па Захадзе Беларусі** пройдуць прэзентацыі найбольшай беларускай інтэрнэт-бібліятэкі Kamunikat.org. **28 красавіка ў Гродне (вул. Будзённага, 48а, зала ва ўнутраным дворыку, пачатак у 18.30) і 29 красавіка ў Брэсце (вул. Міцкевіча, 28, аўд. 315, пачатак у 11.40).** Уваход вольны.




### Беларуская вясна ў Кіеве

**Ва Украіне пачаўся пяты штогадовы фестываль «Беларуская вясна».** Арганізатары кажуць, што падзеі сёлетняга фестывалю прыцягваюць увагу грамадскасці да рэпрэсій, якія адбываюцца ў Беларусі.

**Выстава «Надзвычайны рэжым / Special Treatment»,** што адкрыла фестываль — гэта водгук на хвалю тэрору, што заліла Беларусь у снежні 2010 г. пасля прэзідэнцкіх выбараў. Турэмная графіка Юрася Навіцкага, постары Мікіты Кадана, паштоўкі палітвязням расейскага карыкатурыста Андрэя Більжо, відэаінсталяцыя Вадзіма Заміроўскага.

У рамках фестывалю таксама адбудзецца прэзентацыя комікса Марыны Напрушкінай «Убедительная победа», перформанс Аляксандра Ірванца «Чыстасардэчнае прызнанне», майстар-клас «Мастацтва ў вязніцы», дыскусія пра адказнасць за свабоду перакананняў, а на завяршэнне — бітва падушкамі.



## ВЫСТАВЫ

### Ван Дэйк і яго эпоха

У **Гістарычным музеі (вул. Маркса, 12)** працуе выстава «Ван Дэйк і яго эпоха» са збору Гродзенскага гісторыка-археалагічнага музея. Выстава дэманструе творы графікі і жывапісу XVII—XVIII стст., аб'яднаныя жанрам партрэта. Асноўную частку экспазіцыі складаюць гравюры Антоніса ван Дэйка (1599–1641) — знакамітага фламандскага мастака XVII ст., вучня і паплечніка Рубенса. Творы гэтага фламандскага майстра таксама ёсць на выставе.

### Коміксы, манга & Co

**У Мінску** працуе выстава «Коміксы, манга & Co.», на якой прадстаўленыя спецыяльна адабраныя працы трынаццаці нямецкіх мастакоў у жанры комікса. Гэтая вандроўная выстава, экспануецца **ў канферэнц-зале Інстытута імя Гётэ (вул. Харужай, 25)**.

### Камічнае ў беларускай графіцы

**У Мастацкім музеі (вул. Леніна, 20)** працуе выстава «Праз прызму ўсмешкі. Камічнае ў беларускай графіцы 1910—1990 гадоў». Аснову складаюць творы для часопіса «Вожык». Прадстаўленыя карыкатуры і сатырычныя малюнкі класікаў жанру: Анатоля і Сяргея Волкавых, Яўгенія Ганкіна, Грыгорыя Грамыкі, Мікалая Гурло, Віктара Ждана.

### Беларускі нацюрморт

**Да 8 мая ў Палацы мастацтва (вул. Казлова, 3)** працуе выстава «Беларускі нацюрморт». Праект яб'ядноўвае аўтараў розных пакаленняў, сярод якіх В.Цвірка, М.Данцыг, Л.Шчамялёў, Г.Вашчанка, А.Кішчанка, М.Залозны, Б.Аракчэеў, В.Жоўтак, В.Савіч, М.Селяшчук.

### Выстава Анатоля Тычыны

**У літаратурным музеі Янкі Купалы** працуе выстава «Шляхі, шляхі зямлі радзімай…». Экспануюцца работы мастака Анатоля Тычыны, які сваім жыццём і творчасцю злучыў Літву і Беларусь. На выставе «Шляхі, шляхі зямлі радзімай…» экспануюцца дакументальныя матэрыялы з сямейнага архіва Анатоля Тычыны і фондаў музея Янкі Купалы.

### Парцаляна для каралёў

**У Мастацкім музеі да 10 мая** працуе выстава фарфоравай мануфактуры Херэнда «Парцаляна для каралёў». На выставе можна ўбачыць дэкаратыўныя вазы, прадметы з чайнага, абедзеннага сервізаў з дэкорам «Птушкі Ротшыльдаў».

### Новае жыццё старадаўніх абразоў

**У Мастацкім музеі да 22 мая** працуе выстава абразоў і алтарных карцін «Адкрыццё святой прыгажосці». На выставе экспануюцца 10 твораў тэмпернага і алейнага жывапісу XVII —XIX стст.

### Перасоўныя выставы

**У «Мабільнай галерэі» Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі** да 20 мая працуе 31-я мастацкая выстава Таварыства перасоўных мастацкіх выставак. XXI стагоддзе. (Санкт-Пецярбург).




У Мінск выстава трапіла пасля доўгай вандроўкі па гарадах Еўропы. У экспазіцыі прадстаўлена каля 90 работ 36 жывапісцаў, графікаў і скульптараў з Масквы, Санкт-Пецярбурга, Самары і іншых гарадоў Расіі.

## ТЭАТРЫ

### 28 красавіка

**Беларускай драматургіі** — «Жанчыны Бергмана»

**Юнага гледача** — «Апошняя дуэль»

**Купалаўскі** — «Чорная панна Нясвіжа»

### 29 красавіка

**Лялек** — «Марынка-крапіўніца»

**Купалаўскі** — «Вячэра з прыдуркам»

**Беларускай драматургіі** — «Адамавы жарты»

**Оперы і балета** — «Шапеніяна. Пахіта. Трыстан і Ізольда»

### 30 красавіка

**Юнага гледача** — «Брык і Шуся шукаюць лета»

**Лялек** — «Кот у ботах»

**Оперы і балета** — «Шапеніяна. Пахіта. Трыстан і Ізольда»

**Беларускай драматургіі** — «Адэль»

### 1 мая

**Лялек** — «Прыгоды Пін-Піна»

### 4 мая

**Оперы і балета** — «Бахчысарайскі фантан»

**Юнага гледача** — «Пан міністр»

**Купалаўскі** — «Самотны захад»

## КІНО

### Майстар і Маргарыта

**Мастер и Маргарита**
Расея, 1994, каляровы, 113 хв.
**Рэжысёр:** Юры Кара
**Ролі выконваюць:** Віктар Ракаў, Анастасія Вярцінская, Валянцін Гафт, Мікалай Бурляеў, Міхаіл Ульянаў, Сяргей Гармаш, Аляксандр Філіпенка, Леанід Кураўлёў, Леў Дураў, Сяргей Ніканенка, Уладзімір Сцяклоў

**Жанр:** Містыка-сатырычная драма паводле аднайменнага раману Міхаіла Булгакава

**Адзнака:** 7 (з 10)

«Майстар і Маргарыта» Юрыя Кары быў адным з самых загадкавых фільмаў. Калі ў 1994 годзе стужка паводле «праклятага рамана» была знятая, то адразу знікла ў сейфах прадусараў — і ніхто карціну не бачыў. Потым было заяўлена, што фільм згублены. А калі ён усё ж такі адшукаўся, прэтэнзіі вылучыў нашчадак Булгакава, які не хацеў выпускаць фільм на экран. Але праз сямнаццаць гадоў пасля пастаноўкі — прэм'ера стужкі з паліцы.

Гледачоў, якія прызвычаіліся да галівудскіх эфектаў, здзівіць стрыманасць фантазій: кот Бегемот — актор Віктар Паўлаў у грыме. Замест шкілетаў, што абрастаюць скурай і фракам на баляванні ў Воланда, — Гітлер, Сталін і Пётр Першы пры поўным парадзе. А палёт Маргарыты пад музыку Вагнера глядзіцца наіўна архаічна.

Але ў фільме цудоўная атмасфера часу: Масквы 1930-х і кінатэхнікі 1990-х, калі акторскае майстэрства яшчэ не стала рэкламнай паўзай. Узвінчаная музыка Шнітке дадае абертонаў.

Рэжысёр тактоўна сцішыў некананічнасць ерусалімскіх эпізодаў (не ў апошнюю чаргу, дзякуючы Мікалаю Бурляеву, які сыграў Ешуа і Міхаілу Ульянаву — Понцію Пілату).

На гэтым тле зло выявілася такім, якім яно ёсць: крыклівым, фальшывым і мітуслівым. Ліхаманкава-дробязны Кароўеў (Аляксандр Філіпенка), няшчасны Леанід Кураўлёў, якога прымушаюць здаваць валюту (пад гамерычны рогат мінчукоў у зале), Гафт — Воланд, за тэатральнымі жэстамі якога хаваецца няўпэўненасць. А істэрычна-юрлівая Анастасія Вярцінская ў амаль эсэсаўскіх шатах — ідэальная Маргарыта.

Стужка Юрыя Кары — каштоўны рарытэт, да якога час дадае новыя сэнсы.

**Андрэй Расінскі**



# Айчынныя мабільнікі — беларуская копія кітайскай копіі

«Бабуляфоны» за $100 курам на смех.

Беларускія вытворцы працягваюць «цешыць» насельніцтва краіны сваёй прадукцыяй у сферы высокіх тэхналогій. Як паведаміла прэс-служба Міністэрства сувязі, айчынныя мадэлі мабільных тэлефонаў выпускаюцца ўжо з канца 2010 г. Гаворка вядзецца пра мадэлі «Еўратэф Е1», «Еўратэф Е2» і «Еўратэф Е3» ад кампаніі «Прамсувязь».

Нягледзячы на еўрапейскую назву, тэлефоны пакуль экспартаваць не плануецца. Прызначаныя яны для дзяржаўных прадпрыемстваў і ў шырокі продаж не паступаюць.

Мадэлі «Еўратэф Е1» і «Еўратэф Е3» могуць працаваць з дзвюма сімкарткамі, а таксама маюць дыктафон і дзве фотакамеры. Цана мабільнікаў складае 374 тысячы рублёў і 313 тысяч рублёў адпаведна. Мадэлі розняцца толькі выглядам, а ўсё тэхнічнае напаўненне абсалютна аднолькавае.

У адрозненне ад іх, тэлефон «Еўратэф Е2» прызначаны для сталых людзей і карыстальнікаў з дрэнным зрокам. Функцыя «SOS» дазволіць уладальніку выслаць хуткі выклік ці тэрміновае паведамленне. Цана мабільніка таксама складае 374 тысячы рублёў.

Відаць, мабільнікі выкананыя па праграме «імпартазамяшчэння». Фактычна гэта танныя кітайскія тэлефоны з сімволікай «Прамсувязі». Казаць пра якасць і канкурэнтаздольнасць «Еўратэфаў» не выпадае. Складана ўявіць, што можа прымусіць чалавека, які кантралюе свае дзеянні, аддаць каля $100. За такую суму можна набыць тэлефон Nokia ці Samsung.

**Яўген Васількоў**

Цуд беларускай капіявальнай думкі.




## Сапраўдная беларуская кухня

### Штонікі ў масле

«Надзвычайныя штонікі з маслам, так і плаваюць у масле, святыя такіх не елі».

У. Караткевіч
«Дзікае паляванне караля Стаха»

*300 г пшанічнай або грэцкай мукі, 1 яйка, 180 г вады, масла ці растопленае сала са скваркамі.*

З мукі, яйка і вады замясіць крутое цеста, тонка раскачаць, нарэзаць квадрацікамі. Кожны квадрацік надрэзаць, каб атрымаліся «штонікі», адварыць у падсоленай вадзе. Гатовыя штонікі паліць растопленым маслам або салам са скваркамі.

**Падрыхтавала НБ**

## Сядзіба са зніжкамі для беларускамоўных выйграла рэспубліканскі конкурс

«Гасцявы дом Бука Юліі» перамог у намінацыі «Зялёная сядзіба 2010 года».

Журы конкурсу «Найлепшая агра-экасядзіба 2010 года» прызнала «Гасцявы дом Бука Юліі» найлепшым у намінацыі «Зялёная сядзіба». Сядзіба месціцца за 12 км ад Глыбокага ў вёсцы Валодзькава.

І простыя наведнікі, і сябры журы ацанілі галоўную асаблівасць сядзібы спадарыні Юліі — яе натуральнасць. Тут няма сайдынгу ды іншых адзнак сучаснасці. Сядзіба захоўвае натуральную атмасферу простай сялянскай хаты.

Як расказала «Нашай Ніве» Юлія Бука, яе прыемна ўразілі словы віцэ-прэм'ераў Анатоля Тозіка і Сяргея Румаса на цырымоніі ўзнагароджання. Яны казалі пра неабходнасць захавання вясковых хатаў у якасці аб'ектаў агратурызму.

«Сядзіба, дзе для беларускамоўных існуе зніжка, стала найлепшай!» — ганарыцца Юлія Бука. За перамогу яна атрымала аблігацыі «Белаграпрамбанка» на суму 3 млн беларускіх рублёў і памятныя прызы.

А Гран-пры конкурсу атрымала сядзіба «Паўлінава» ў Баранавіцкім раёне.

**Сямён Печанко**




Гаспадыня адной з найлепшых аграсядзібаў краіны Юлія Бука з падарункамі.

**Хто яшчэ перамог у конкурсе**

У намінацыі «Захаванне беларускіх традыцый» перамагла сядзіба «Міколаў востраў», Светлагорскі раён. Тут гаспадар адрамантаваў 17-метровы млын — сапраўдны помнік культуры. У намінацыі «Здаровы лад жыцця» пераможцам стала «Сядзіба» з-пад Гомеля, якая спецыялізуецца на медыцынскай рэабілітацыі дзетак. Сядзіба «У Князева ў Любужы», што пад Магілёвам, атрымала перамогу ў намінацыі «Гасціннасць». «Стыль і гармонія» — перамога «Сябры і К» з Аршаншчыны.

## У дзіцячых парках адкрыўся сезон

Цэнтральны дзіцячы парк імя Горкага і Парк культуры і адпачынку імя Чалюскінцаў 16 красавіка адкрылі сезон атракцыёнаў.

Парк атракцыёнаў папоўніўся дзвюма навінкамі: у парку Горкага адкрыецца атракцыён «Каліпса», а ў парку Чалюскінцаў — «Калабок».

**Паводле БелТА**

## У Мінску з'явіліся прафесійныя стаяльцы ў чэргах

Чаргу ахвотнікам могуць заняць у загсе, ДАІ, пасольстве, банку...

Для мінчукоў з'явілася новая паслуга — на сайце «Без чаргі» прапануюць пастаяць у чарзе замест тых, у каго на гэта няма часу ці жадання. «Вы паведамляеце пра месца і час, мы займаем за вас чаргу і даём 100-працэнтную гарантыю наведвання вамі кабінета. На працягу ўсёй чаргі вядзецца смс-падтрымка кліента», — абяцаюць на сайце. Цана паслугі складае 10 тысяч беларускіх рублёў за гадзіну — з 8.00 да 19.00, 15 тысяч — з 19.00 да 8.00 і 17 тысяч — з 01.00 да 06.00.

Першую ў краіне кантору па займанні чаргі адкрыла студэнтка Беларускага ўніверсітэта інфарматыкі і радыёэлектронікі Ірына Шаўчэнка. У пасведчанні пра рэгістрацыю ІП, выдадзеным Ірыне, запісана «іншыя паслугі». «Гэты выгляд паслуг не падпадаў ні пад адну катэгорыю», — заўважыла яна.

Найбольшай папулярнасцю сярод мінчукоў карыстаюцца чэргі ў пасольствах і ДАІ.

**Паводле Naviny.by**

## Прыватныя абвесткі

**КНІГІ**

**Прадам т.6, 8–11 Беларускай Энцыклапедыі ў 18 т.** Т.: 298-16-62.

**Прадаю: Leod. Яснавяльможны пан Леў Сапега.** Гомель, 2001. 199 стар. Цана 10 тыс. за асобнік. Замова электроннай поштай: leod67@rambler.ru або па тэлефоне (029) 304-57-15.

**ВАНДРОЎКА**

**Шукаем ахвотных далучыцца да сяброўскага падарожжа «У глыб Палесся»** 15 мая. Маршрут: Тураў–Давыд-Гарадок–Рэмель–Ольпень–Велямічы–Рубель–Столін. Т.: 262-73-43, (029) 111-73-32.

Прыватныя абвесткі ў «НН» (не больш за 15 словаў) можна падаць бясплатна. Дасылайце поштай (а/с 537, 220050, Мінск) ці праз e-mail (nn@nn.by) або размяшчайце на форуме сайта www.nn.by. Дык скарыстайцеся!

# Гэта нашая мова, гэта нашыя школы

Хутка набор у першы клас і малодшыя групы! Прапануем падрабязную інфармацыю, адрасы і кантакты беларускамоўных школ і садкоў.

### Мінск. Беларускамоўныя школы і гімназіі

**Гімназія №4 (Кунцаўшчына, 18)**: навучанне ў фізіка-матэматычных, хіміка-біялагічных і філалагічных класах.

E-mail: gymn4.minsk.edu.by, т.: (017) 258-49-71, 258-49-74.

**Гімназія №23 (пр. Незалежнасці, 45)**: выкладанне на высокім узроўні англійскай, кітайскай, польскай моваў.

E-mail: gymn23@minsk.edu.by; т.: (017) 284-47-62, 284-87-16.

**Гімназія №9 (Сядых, 10)**: паглыбленае вывучэнне англійскай мовы, факультатыўнае — польскай. Прапануе вывучэнне прадметаў музычнага цыкла.

Т.: (017) 283-04-21, 281-38-04.

**Гімназія №28 (Ракасоўскага, 93)**: паглыбленае вывучэнне французскай мовы, міжнародныя абмены, выкладанне прадметаў на французскай мове (краіназнаўства, літаратура Францыі) па праграмах, распрацаваных настаўнікамі школы.

E-mail: sch2@minsk.edu.by.; т.: (017) 248-32-02, 248-12-64.

**Гімназія №14 (Васняцова, 10)**: паглыбленае вывучэнне замежных моваў, спецкурсаў па міфалогіі, псіхалогіі, асновах эканамічных ведаў, журналістыцы. На базе гімназіі дзейнічаюць фальклорны ансамбль, музеі, літаратурная студыя і студыя бальных танцаў.

Т.: (017) 295-01-33, 295-21-31.

СШ №190 (Нікіфарава, 19): выкладанне на беларускай і расійскай мовах. Бясплатная музычная адукацыя і спартыўныя секцыі.

Т.: (017) 260-24-90; e-mail: sch190@minsk.edu.by.

**СШ №60 (Лібкнехта, 82)** — навучанне з музычным ухілам. У школе дзейнічаюць гурткі, клубы, музей, творчыя і грамадскія аб'яднанні.

Т: (017) 208-69-74, 209-94-49.

**СШ № 68 (зав. Ахоцкі, 17)**: набор у класы з фальклорна-тэатральным напрамкам.

E-mail: sch68@minsk.edu.by; т. (017) 243-76-82.

### Мінск. Белмоўныя класы ў расійскамоўных школах

СШ №11 (Асаналіева, 14) — школа з агульнаэстэтычным ухілам.

Т.: (017) 277-45-34, 275-59-10.

***

СШ №72 (Халмагорская, 59) — сёлета будзе набірацца адзін беларускамоўны першы клас. Дадаткова — вывучэнне англійскай мовы, мастацкі ўхіл.

Т.: (017) 246-53-71, 246-52-42.

***

СШ №108 (Уральская, 15) — спартыўныя гурткі і секцыі, вячэрнія класы.

E-mail: sch108@minsk.edu.by, т.: (017) 245-20-41.

***

СШ №131 (Убарэвіча, 74) — вывучэнне замежных моваў (нямецкай, польскай, французскай, іспанскай, шведскай), харэаграфіі.

Т.: (017) 340-62-38, 345-14-12.

***

СШ №180 (Радужная, д.8, корп.3) — паглыбленае вывучэнне англійскай мовы.

Т.: (017) 250-10-49.

***

СШ №209 (Рафіева, 91) — вывучэнне французскай мовы, вакальныя студыі, спартыўныя секцыі.

Т. (017) 274-69-71, 256-48-77.

***

СШ №110 (Брэсцкая, 66) — дзейнічае праграма «Здароўе».

Т. (017) 278-58-81, 278-11-12.

**У Брэсце маленькаму Франку шукаюць кампанію ў першы клас**

Бацькі Франка Ільіна з Брэста шукаюць сыну кампанію ў 1-ы клас з беларускай мовай навучання. Кантакты праз e-mail: soap@euroradio.fm.

### Гродна

СШ №32 (Ліможа, 11)

Т.: (0152) 48-50-48; 43-64-03.

### Магілёў

СШ №1 (Першамайская, 24)
Т.: (0222) 22-12-64; 31-07-85.

### Баранавічы

СШ №14 (Піянерская, 98)
Т.: (0163) 42-51-50.

### Дзіцячыя дашкольныя ўстановы Мінска, дзе ёсць беларускамоўныя групы:

Заводскі раён

ДДУ №202 (Партызанскі пр., 85а). Т.: (017) 245-12-92.

Кастрычніцкі раён

ДДУ №97 (Ландэра, 18). Т.: (017) 277-89-11, 277–49–20, ddu97@minsk.edu.by.

Ленінскі раён

ДДУ №101 (Якубава, 60). Т.: (017) 238-88-61.

Маскоўскі раён

ДДУ №412 (пр. Газеты Праўда, 64а). Т.: (017) 271-68-47.

ДДУ №473 (Ясеніна, 6/4). Т.: (017) 271-94-06.

ДДУ №541 (Ясеніна, 137). Т.: (017) 205-37-24.

Партызанскі раён

ДДУ №543 (Бумажкова, 39). Т.: (017) 235-36-02.

Першамайскі раён

ДДУ №220 (Каліноўскага, 11а). Т.: (017) 265-23-02.

ДДУ №273 (Каліноўскага, 89. Т.: (017) 263-06-84.

ДДУ №522 (Русіянава, 23). Т.: (017) 260-65-01.

ДДУ №66 (пр. Незалежнасці, 102а). Т.: (017) 264-60-52.

ДДУ№361 (Цікоцкага, 44). Т.: (017) 263-38-28.

Савецкі раён

ДДУ №314 (Багдановіча, 68а). Т.: (017) 234-25-61.

Фрунзенскі раён

ДДУ №534 (Матусевіча, 59). Т.: (017) 257-76-91.

Цэнтральны раён

ДДУ № 187 (Кахоўская,64а). Т.: (17) 213-06-71 — 6 груп, афіцыйна цалкам беларускі.

ДДУ № 218 (б-р Шаўчэнкі, 13). Т.: (017) 288-09-33.

ДДУ № 234 (Карастаянавай, 19). Т.: (017) 288-50-75.

ДДУ № 503 (Радужная, 4, корп.2). Т.: (017) 234-36-05.

**Падрыхтаваў Сямён Печанко**

**Да чытачоў.** Дасылайце ў Рэдакцыю інфармацыю пра беларускамоўнае навучанне ў вашай вобласці і раёне. Пішыце пра новыя ініцыятывы бацькоў і ўпраўленняў адукацыі.



Нацыянальная хакейная зборная з'ехалася рыхтавацца да чэмпіянату свету. Старонка 14.

PHOTO BYMEDIA.NET

# Беларускую мадэльку не пусцілі на фотасесію ў Лондан

Беларуская мадэлька Таццяна Рынейская была адабраная з 75 тысяч прэтэндэнтаў на ўдзел у рэкламнай кампаніі брэнда Benetton, але не змагла вылецець у Лондан, бо брытанскі кансулят двойчы адмовіў ёй у візе.

Брытанцы засумняваліся, што незамужняя 23-гадовая беларуска вернецца на радзіму. Кантракт на рэкламную фотасесію, які «выпадае раз у жыцці», аказаўся сарваным.

«Як такое магчыма? Такая магчымасць чалавеку даецца раз у жыцці, і яна прайшла міма мяне. Ком у горле, і ад крыўды хочацца лезці на сцяну», — рэзюмуе Таццяна.

Таццяна з тых людзей, пра якіх кажуць «зрабіла сябе сама». Нарадзіўшыся ў Светлагорску, яна здолела ў 20 гадоў атрымаць тытул «Міс фота» на конкурсе «Міс Беларусь-2008». У гэтым жа годзе яна заняла 3 месца на конкурсе «Міс Інтэркантыненталь Еўропы» і з'яўляецца цяпер адной з самых знакамітых мадэляў Беларусі.

**СГ; Generation.by**



АНТОН МАТОЛЬКА

## Анекдоты

* * *

Лукашэнка ў пасланні нацыянальнаму сходу і народу Беларусі: «Я вам больш скажу, хоць я гэта не афішую, я гаварыў з Муамарам Кадафі...»

* * *

Кабінет начальніка ГУУС.

— Дакладвайце, маёр, што ў нас па справе з рабаваннем банка?

— Усё ў парадку, таварыш палкоўнік, мы паза падазрэннямі.

* * *

Пост — гэта ўжо як выйдзе, а вось калі працаваць нельга — то гэта святое!

* * *

Добра было б, каб хабарнікаў кляймілі! Вось калі трэба тэрмінова вырашыць бюракратычнае пытанне, адразу ж можна было б знайсці чыноўніка з кляймом хабарніка і хутка з ім дамовіцца.

* * *

У цырульні:

— Патрасіце, калі ласка, галавой: я туды нажніцы ўпусціла!

* * *

Ідэальны сусед — гэта той, хто шуміць у той самы час, што і вы.

* * *

Званок у дзверы.

— Хто там?

— Сантэхніка выклікалі?

— Вядома!

— Куды пакласці?

* * *

Мае суседзі слухаюць добрую музыку. І ўсё адно, хочуць яны гэтага ці не.

## «НН» сто гадоў з вамі

**Віцебск.** Чарнасоценная газета «Крестьянинъ» жыць не можа, каб не зброхаць чаго на ненавісную ёй «Нашу Ніву». Пасля таго, як ужо не хапіла матэрыялу на фальшывыя даносы, «Крестьянинъ» займаецца тым, што перакручвае словы «НН» і вінавацiць нас, у чым толькі прыкажуць.

**«НН». № 15. 1911**

**Беларуская вайсковая пракуратура накіравала ў суд крымінальную справу супраць сямі курсантаў Вайсковай акадэміі.** Падчас навучання хлопцы, відаць, паспелі расчаравацца ў матэрыяльных выгодах будучай афіцэрскай кар'еры. І вырашылі паклапаціцца аб сваім дабрабыце самі. Маючы доступ да навучальнага комплексу супрацьпаветранай абароны С-300, курсанты пацiху «трыбушылі» яго. Базазе, попыт на радыёдэталі, якія ўтрымліваюць каштоўныя металы, на Ждановіцкім рынку быў і застаецца вялікім.

**«НН». № 17. 2001**


**Наша Ніва**

незалежная газета

заснаваная ў 1906, аднoўленая ў 1991

**галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:**
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі Наста Бакшанская
шэф-рэдактар Андрэй Дынько
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

**АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:**
**220050, Мінск, а/с 537**
**Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.**
**E-mail: nn@nn.by**
**On-line: www.nn.by**




8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня РУП «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

**Наклад 7260.** **Газета выдаецца 48 разоў на год.**
Нумар падпісаны ў друк 23.00 26.04.2011.
Замова №1970.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.
Цана дамоўная.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 1819-1614




23 красавіка беларускія байкеры правялі ў Мінску злёт, прысвечаны адкрыццю мотасезона.





Такія жарты з нагоды інфляцыі з'яўляюцца ў інтэрнэце.